• выдаецца са жніўня1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 700 рублёў

16 студзеня 1996 г. аўторак, №№ 13-14 (22816— 22817)

# ЗВЯЗДА



РОЗГАЛАС

## ПЕРАМОВЫ З ПРЭЗІДЭНТАМ КАЗАХСТАНА І ЎДЗЕЛ У МАСКОЎСКАЙ СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ СНД — АСНОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПРАЦОЎНАГА ТЫДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПРЭЗІДЭНТА

**Як паведамілі БелаПАН у Галоўным упраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, на гэтым тыдні асноўную ўвагу Аляксандр Лукашэнка ўдзеліць пытанням супрацоўніцтва Беларусі з дзяржавамі—удзельніцамі СНД.**

Так, 17 студзеня кіраўнік краіны правядзе перамовы з прэзідэнтам Рэспублікі Казахстан Нурсултанам Назарбаевым, які прыбывае з афіцыйным візітам у Мінск. Падчас іх будзе абмеркаваны шырокі спектр пытанняў двухбаковага супрацоўніцтва членаў Мытнага саюза і перспектыў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Па выніках перамоў плануецца падпісаць шэраг міждзяржаўных пагадненняў, у тым ліку і дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж двума краінамі. На наступны дзень Аляксандр Лукашэнка мае намер вылецець у Маскву для ўдзелу ў чарговым пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці, якое пройдзе ў расійскай сталіцы 19 студзеня. На абмеркаванне прэзідэнтаў, як вядома, выносіцца каля дваццаці пытанняў эканамічнага, палітычнага і ваеннага характару. У Маскве А.Лукашэнка плануе сустрэцца з лідэрамі некаторых дзяржаў Садружнасці.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## УСІМ, ХТО ЗАМЯРЗАЕ, РАЮЦЬ ЗВЯРНУЦЦА Ў БЛІЖЭЙШЫ ЖЭС

**Сапраўдная марозная зіма, якая нарэшце прыйшла на Беларусь, не прынесла радасці вялікай колькасці жыхароў сталіцы. Справа ў тым, што ў некаторых кватэрах горада ўжо колькі тыдняў тэмпературны слупок не падымаецца вышэй за 14—16 градусаў цяпла.**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, тэмпературны рэжым у рэспубліцы ніхто не змяняў. Такім чынам, ён па-ранейшаму павінен заставацца на ўзроўні не ніжэй 18 градусаў цяпла для кватэр і не ніжэй 20 градусаў — для бюджэтных устаноў (школ, дзіцячых садкоў, бальніц і г.д.). Праўда, тэмпература ў жылых памяшканнях можа быць зменшана на два градусы, але толькі пры ўмове цёплага надвор'я.

Такім чынам, недастатковае ацяпленне памяшканняў тлумачыцца, хутчэй за ўсё, непаладкамі ў рабоце канкрэтных кацельняў і цеплавых электрастанцый. Таму ўсе звязаныя з нізкай тэмпературай пытанні спецыялісты міністэрства раяць вырашаць на месцы жыхарства — у бліжэйшым ЖЭСе.

**Сяргей ГРЫБ.**

## МЕДЫКІ ПРАГНАЗУЮЦЬ ЧАРГОВУЮ ЎСПЫШКУ ГРЫПУ

**Магілёўскія медыкі прагназуюць у бліжэйшыя дні чарговую ўспышку грыпу.**

Ды і ў папярэднія колькасць хворых на грып у Магілёве ў 3,7 раза перавышала норму. Большасць з іх — дзеці. Паводле даных статыстыкі, пік захворваемасці прыпаў на пераднавагоднія дні.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## НАС ЗНОЎ СТАЛА МЕНШ

**Паводле папярэдніх даных упраўлення статыстыкі насельніцтва Дзяржкамстата, на 1 студзеня 1996 года ў Беларусі пражывала 10 мільёнаў 315 тысяч чалавек. Такім чынам, колькасць жыхароў нашай рэспублікі зменшылася за мінулы год прыкладна на 30 тысяч.**

Сумна, але насельніцтва краіны па-ранейшаму змяншаецца пераважна натуральным шляхам: у 1995 годзе колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 28 тысяч чалавек. Змяншэнне яшчэ на дзве тысячы сталася вынікам міграцыйных працэсаў. Відаць па ўсім, Беларусь перастае быць краінай для грамадзян іншых краін, і ў першую чаргу краін блізкага замежжа.

**Сяргей ГРЫБ.**



# АНАСТАСІЯ

**Насценька Аўхімовіч... За час, што мы не бачыліся, яна падрасла, набралася сіл, навучылася... хадзіць. Я прыйшоў да яе развітацца. Ці ўбачымся калі яшчэ, ці вернецца яна ўвогуле з краіны, дзе няма бедных і пакінутых? Шчаслівы выпадак, які адбыўся ў жыцці маленькай пакутніцы, можа карэнным чынам змяніць яго да лепшага. Верыцца, што так яно і будзе.**

*(Заканчэнне на 9-й стар.).*

ГРОШЫ

## АЖЫЯТАЖ СПАДЗЕ, І КУРС ДОЛАРА ВЕРНЕЦЦА НА МЕСЦА?..

**Перадсвяточная сітуацыя на наяўным валютным рынку, калі цвёрдая СКВ раптам значна падаражэла, у першы дзень пасля старога Новага года захавалася. Максімальны курс продажу ў сталіцы долара склаў ужо 15 тысяч рублёў за адзін долар, а што датычыцца яго пакупкі, то ў панядзелак долар можна было прадаць за 11.700 — 12.800 рублёў. Бадай, самымі першымі на імклівае падзенне курса рубля ў адносінах да долара адрэагавалі камерсанты: пачынаючы з пятніцы многія «камкі» былі зачынены, а іх работнікі займаліся пераразлікам цэн на тавары. У выніку, напрыклад, той жа пачак «LM», які каштаваў 7 тысяч 500 рублёў, зараз курцы вымушаны ўжо набываць за 9 тысяч.**

Зразумела, насельніцтва таксама было збіта з панталыку апошнімі падзеямі. Шмат знайшлося жадаючых набыць валюту па новаму курсу, які прапанавалі банкі. Паўзучы ўгору курс долара з'явіўся тым штуршком, які прымусіў многіх хутка вырашаць пытанне, што больш выгадна: трымаць на руках беларускія рублі ці ўсё ж такі лепш купіць долары? Спадзеючыся на тое, што «заяц» і надалей штодзень будзе працягваць абсцэнцыяльна хуткімі тэмпамі, некаторыя людзі перастрахаваліся: супрацоўнікі рэдакцыі самі былі сведкамі таго, як ля абменных пунктаў асобныя жыхары сталіцы набывалі па 100—200 долараў па курсу 13.500 рублёў за долар.




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

Аднак ці трэба было мітусіцца ў дадзенай сітуацыі і рэагаваць на залішне імклівы рост валюты? На жаль, далёка не ўсе банкіры сёння згаджаюцца даць адказ на гэта пытанне. Але, мяркуючы па каментарыях, якія нам усё ж такі ўдалося атрымаць, як кажуць, хто спяшыць, той парабляе. Сведчыць аб гэтым, да таго ж, і тая інфармацыя, згодна з якой на высокім узроўні збіраюцца ў прысутнасці банкіраў сур'ёзна абмеркаваць «выхад са спячкі» долара: якія былі падставы для яго, прама скажам, грандыёзнага росту, калі ж ніякіх, — то ці не самы час усё вярнуць на ранейшае месца?

Калі абапірацца на думку некаторых экспертаў, то вынікае, што на падаражанне валюты паўплывалі залішнія інфляцыйныя чаканні. Праўда, відавочна і тое, што ажыятаж спадзе, рост хутка павінен спыніцца. Па самых аптымістычных прагнозах, мінімум праз тыдзень курс беларускага рубля ў адносінах да долара вернецца на месца і будзе складаць каля 11.700—11.750 рублёў за долар. Хоць не выключана і тое, што ў параўнанні з мінулым курс долара зноў застыне на нязручных на адзнацы 11.800—12.000 рублёў. Калі абапірацца на вызначаны тэрмін, то чакаць засталося нядоўга. Пабачым.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

ПОГЛЯД

## ШТО МОЖА ДАЦЬ НАМ ДЭВАЛЬВАЦЫЯ?

**Як неадназоча гаварылася ў друку, у апошні час Нацыянальны банк Беларусі актыўна прадаваў свае валютныя рэзервы. За паўгода яны зменшыліся амаль у 2 разы. Калі краіна губляе свае валютныя рэзервы, яна рана ці позна ўсё роўна ажыццяўляе дэвальвацыю. Курс беларускага рубля ў адносінах да долара стаіць на месцы каля года. Ва ўмовах росту ўнутраных цэн пакупная здольнасць самога долара знізілася (за 1994—95 гг.) больш чым у 3 разы. Гэта негатыўным чынам паўплывала на канкурэнтаздольнасць беларускіх экспартуючых галін, цэны на прадукцыю якіх адпаведна ўзраслі.**

(Заканчэнне на 2-й стар.).

ТРАГЕДЫЯ

## ПРАРВАНА АБАРОНА

**Учора ў 9 гадзін раніцы (час маскоўскі) процістаянне падраздзяленняў федэральных сіл Расіі і чачэнскіх тэрарыстаў дасягнула найвышэйшай кропкі.**

Пачалася крывавая развязка, якая ў горшым выпадку пагражае гібеллю не толькі вайскоўцам, прафесій якіх і з'яўляецца рызыка, але і амаль двумстам мірным грамадзянам. Што з'явілася штуршком для працягу перамоў з дапамогай зброі, цаной чалавечых жыццяў? У кожнага з бакоў па гэтаму пытанню ёсць сваё тлумачэнне. Расійскі бок паведамляе, што штурм пачаўся, па адных даных (прэс-цэнтр МУС), пасля таго, як баевікі расстралялі некалькі дагестанскіх старэйшын і байцоў АМОНа, (Інтэрфакс), па другіх (кіраўнік цэнтра грамадскіх сувязей Федэральнай службы бяспекі Міхайлаў), — па прычыне таго, што тэрарысты павесілі двух байцоў АМОНа яшчэ ў нядзелю і абстралялі пазіцыі федэральных войскаў. Да гэтага ўчора раніцай былі перахоплены радыёперамовы між штабам Дудаева і групай Радуева, у якіх былі дадзены інструкцыі аб пачатку расстрэлу заложнікаў.

Міністр інфармацыі ва ўрадзе Дудаева Удугаў у катэгарычнай форме адмаўляе інфармацыю аб тым, што штурм сяла Першамайскае пачаўся пасля расстрэлу заложнікаў. Ён заявіў, што баевікі нават не пагражалі расстрэлам заложнікам у выпадку наступлення федэральных сіл — пагроза датычылася толькі палонных АМОНаўцаў. Удугаў паведаміў, што групе Радуева ўдалося адбіць першыя атакі федэральных сіл, у якіх выкарыстоўваліся артылерыя, баявыя верталёты МІ-26, бралі ўдзел падраздзяленні «Альфа» і дэсантнікі. Па звестках Бі-бі-сі, ад агню расійскага боку ў першай палове дня загінулі 3 заложнікі. На подступах да сяла падбіты некалькі расійскіх бронетранспарцёраў, загінулі 34 расійскія вайскоўцы і 7 баевікоў

Кіраўнік прэс-службы расійскага прэзідэнта Мядзведзеў заявіў, што рашэнне пачаць штурм Першамайскага тлумачыцца тым, што, на думку Барыса Ельцына, далейшае прамаруджанне магло каштаваць заложнікам жыцця. Мядзведзеў дадаў, што Ельцын не хацеў бы падвяргаць рызыцы жыцці заложнікаў, але не можа дапусціць, каб чачэнскія тэрарысты засталіся без пакарання.

Што датычыцца прапановы кіраўнікоў палітычнага руху «Яблоко» Яўлінскага і іншых па ўрэгуляванню сітуацыі, то, па словах Мядзведзева, Ельцын іх атрымаў і яны былі выкарыстаны падчас перамоў з баевікамі, аднак гэта ні да чаго не прывяло.

Што стала сапраўднай прычынай разгортвання ваенных дзеянняў у Першамайскім, высветліцца з ходам часу. Сёння сітуацыя склалася такім чынам, што ахвяр можа быць нашмат больш, чым падчас трагедыі ў Будзёнаўску. Тым больш, што ўрад пайшоў на зусім іншыя, радыкальныя меры. Аднак пакуль няясна, хто возьме на сябе адказнасць за кроў, якая ўжо пралілася і яшчэ пральецца ў выпадку, калі гэтая жудасная бойня не будзе спынена. Невядома і тое, калі абвінавацяць гісторыя ў праліцці крыві невінных ахвяр палітычнага процістаяння — злачынцаў ці іх суддзяў.

**Сяргей ПРОТАС.**

***P. S. Па даных на 18 гадзін, абарона баевікоў прарвана. Яны рассечаны на некалькі груп і сіламі ФСБ і МУС вядзецца іх знішчэнне ў самім сяле. Федэральныя сілы спыняюць усе спробы тэрарыстаў прарвацца да будынкаў школы і мячэці, дзе знаходзяцца заложнікі.***

## КАЛЯДНЫЯ ВАКАЦЫІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

**Замежная традыцыя калядных вакацый у нас амаль прыжылася. Толькі вакацыі на нашых прадпрыемствах цягнуцца значна больш.**

Так, Мінскі трактарны завод спыніў сваю дзейнасць да 22 студзеня. Акцыянернае таварыства «Сукно» пакуль працуе, але ў хуткім часе спецыялісты прадпрыемства чакаюць спад і спыненне вытворчасці. На маторным заводзе гэты тыдзень будзе працоўным, хаця цэх па зборцы перапыніць дзейнасць, пакуль МТЗ не паставіць неабходныя дэталі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ПРЭЗІДЭНТЫ ВЫРАШЫЛІ — ШТО ЗРОБЛЕНА...

**Пад старшынствам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча адбылося чарговае пасяджэнне беларускай часткі сумеснай Беларуска-расійскай камісіі па супрацоўніцтву.**

Разгледжаны ход рэалізацыі Пратакола па выніках сустрэч Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі і Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Б.М.Ельцына ў г.Мінску 21-22 лютага 1995 года, пагаднення паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Расійскай Федэрацыі аб асноўных прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва ў 1995 годзе і аб праекце гандлёва-эканамічнага пагаднення паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Расійскай Федэрацыі на 1996 — 1997 гады, а таксама пытанні распрацоўкі, заключэння і рэалізацыі двухбаковых беларуска-расійскіх пагадненняў, урэгулявання даўгавых абавязацельстваў.

Камісія вырашыла прапанаваць расійскаму боку разгледзець гэтыя ж праблемы на агульным пасяджэнні сумеснай Беларуска-расійскай камісіі.

**БЕЛТА.**

## КАБ НЕ ЎЗНІКЛА ПРАБЛЕМ НА МЫТНІ

**Колькі «зайчыкаў» і расійскіх рублёў можна ўзяць з сабою, перасякаючы мяжу паміж Беларуссю і Расіяй? На гэта пытанне дае адказ Нацыянальны банк РБ.**

У адпаведнасці з пагадненнем аб мытным саюзе паміж Беларуссю і Расіяй, а таксама з мэтай уніфікацыі нормаў валютнага рэгулявання ўстаноўлены наступны парадак увозу і вывазу разліковых білетаў Нацбанка РБ і наяўных рублёў Расійскай Федэрацыі:

— увоз і вываз разліковых білетаў рэзідэнтамі і нерэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь (на адну фізічную асобу) праз мытную тэрыторыю нашай дзяржавы ўстаноўлены, адпаведна, у памеры 500 мінімальных заработных плат;

— увоз і вываз праз мытную прастору Беларусі наяўных рублёў Расійскай Федэрацыі рэзідэнтамі і нерэзідэнтамі РБ (на адну фізічную асобу) устаноўлены, адпаведна, на ўзроўні 500 мінімальных акладаў, якія існуюць у Расійскай Федэрацыі.

**Алесь МАКОЎСКІ,**
**прэс-служба Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.**

## ФІЛФАК ЗАСТАНЕЦЦА Ў ВПШ

**Дарэмнымі аказаліся хваляванні з нагоды нібыта запланаванага ў новым годзе перасялення філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта з будынка па вул. К. Маркса, 38 (былой Вышэйшай партыйнай школы).**

Чуткі аб пераездзе факультэта з ВПШ з'явіліся яшчэ летам. Паводле іх, прэтэнзіі на будынак выказала Акадэмія кіравання. Праз пэўны час інфармацыя аб магчымай змене філфакам «прапіскі» прагучала падчас аднаго з тэлеінтэрв'ю і з вуснаў Прэзідэнта. Пасля гэтага на факультэце быў скліканы пашыраны вучоны савет, які прыняў рашэнне адстойваць свой цяперашні будынак і звярнуцца ў гэтай справе па дапамогу да кіраўніка дзяржавы. Як аказалася, недарэмна. Як паведаміў нашаму карэспандэнту дэкан філфака Алег Лойка, літаральна праз тыдзень пасля звароту на яго імя прыйшоў адказ з Адміністрацыі Прэзідэнта, з якога вынікае, што пазбаўляць факультэт будынка ніхто не збіраецца. Такім чынам, канфлікт вычарпаны: філфак застанецца ў будынку былой ВПШ і надалей.

**Сяргей ГРЫБ.**

## НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца невялікая воблачнасць, без ападкаў, месцамі шэрань. Тэмпература паветра ў Віцебску — 8—10, Мінску, Магілёве, Гродне — 9—11, Брэсце, Гомелі — 10—12 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак захаваецца халоднае надвор'е.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 16-17 СТУДЗЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца ўплывам антыцыклону, чакаецца нязначнае паніжэнне атмасфернага ціску і ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах захоўваецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых, схільных да спастычных рэакцый (жоўцекамянёвая і гіпертанічная хваробы, бранхіяльная астма, стэнакардыя). Па-ранейшаму рэкамендуецца пазбягаць фізічных і псіхаэмацыянальных нагрузак, прытрымлівацца дыеты, рабіць самамасаж шыйна-плечавога пояса і цёплыя гідрапрацэдуры, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, уключаючы заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

## МЯРКУЕМЫЯ ВІЗІТЫ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ А. ЛУКАШЭНКІ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ

**Чакаецца, што ў канцы студзеня — пачатку лютага Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка возьме ўдзел у Сусветным эканамічным форуме ў Давосе (Швейцарыя). Аб гэтым журналістам паведаміў на брыфінгу намеснік міністра замежных спраў Беларусі Міхаіл Хвастоў. Эканамічны форум у Давосе — штогадовае мерапрыемства, удзел у якім сёлета возьмуць кіраўнікі 23 дзяржаў свету. Летась Беларусь на ім прадстаўляў прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір.**

Акрамя таго, плануецца, што ў сакавіку адбудзецца афіцыйны візіт кіраўніка беларускай дзяржавы ў Маскву, падчас якога будзе абмеркаваны на вышэйшым узроўні шэраг важнейшых эканамічных і палітычных пытанняў супрацоўніцтва Беларусі і Расіі. Міхаіл Хвастоў, адказваючы на пытанне адносна тэрмінаў адкладзенага візіту ў Беларусь расійскага віцэ-прэм'ера Алега Саскаўца, заўважыў, што, магчыма, ён адбудзецца яшчэ да паездкі беларускага Прэзідэнта ў Маскву. Журналістаў цікавіла і пытанне адносна дасягнення з Расіяй дамоўленасці аб так званым «нулявым варыянце», калі будуць скасаваны ўзаемныя даўгі. Намеснік міністра заявіў, што група экспертаў на чале з міністрам па справах СНД Іванам Бамбізай ужо палічыла суму агульнай запазычанасці Беларусі Расіі. Аднак гэтую лічбу Міхаіл Хвастоў назваць адмовіўся, дадаўшы толькі, што розніца ўзаемных даўгоў Расіі і Беларусі складае каля 300 мільёнаў долараў.

Па каналах беларускага МЗС атрымана пацвярджэнне аб тым, што гэтым летам адбудзецца візіт Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Турцыю.

Міхаіл Хвастоў паведаміў таксама журналістам, што ў бліжэйшы час прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір плануе наведаць Балгарыю. Магчыма, што падчас гэтага візіту будзе падпісаны пакет базавых дакументаў, у тым ліку пагадненні аб узаемнай абароне інвестыцый, аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання, аб паветраных зносінах, аб бязвізавых паездках грамадзян і некаторыя іншыя.

**Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.**

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПЛАНУЕ ПРАВЕСЦІ 30 САКАВІКА КАНФЕРЭНЦЫЮ ПА ПЫТАННЯХ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы вызначыў дату правядзення навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты» — 30 сакавіка гэтага года. Вырашана запрасіць да ўдзелу ў арганізацыі гэтага форуму як мага больш шырокае кола грамадскіх, палітычных арганізацый і дзяржаўных устаноў.**

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН сябар сакратарыята ТБМ Вінцук Вячорка, сярод мэтаў канферэнцыі — тэарэтычнае асэнсаванне і напрацоўка больш поўнага фактычнага матэрыялу для правільнай ацэнкі становішча, у якім апынулася беларуская мова ў выніку працяглай дыскрымінацыі. В.Вячорка спадзяецца, што гэты форум непазбежна прыцягне ўвагу грамадства да праблемы беларускай мовы, прымусіць паглядзець на яе паслярэферэндумаўскі стан новымі вачыма, асэнсаваць, што вынікі рэферэндуму прадвызначылі маніпуляцыя масавай свядомасцю і сфарміраваныя на працягу вякоў той акупацыйнай дыскрымінацыі стэрэатыпы. Па словах В.Вячоркі, на канферэнцыі, магчыма, будуць прааналізаваны законнасць і падставы рэферэндуму з юрыдычнага пункту гледжання. Акрамя таго, сам факт правядзення канферэнцыі на тэму дыскрымінацыі беларускай мовы ў беларускай жа дзяржаве не можа не прыцягнуць увагі і сусветнай грамадскасці.

**Сяргей ЛІТВІН, БелаПАН.**

## ШТО МОЖА ДАЦЬ НАМ ДЭВАЛЬВАЦЫЯ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Што датычыцца мераў Нацбанка па абмежаванню куплі-продажу валюты і фактычнаму закрыццю міжбанкаўскага валютнага рынку, то ў канчатковым выніку гэта не з'явіцца вялікай перашкодай для ўцечкі валюты за мяжу (хоць такая мэта ставілася як асноўная) і зноў жа — ніяк не адаб'ецца на стрымліваемым курсе беларускага рубля.

Менавіта дэвальвацыя беларускага рубля можа выступіць мерай, накіраванай на стабілізацыю нашай эканомікі. Давайце паглядзім, што ж можа адбыцца ў выніку дэвальвацыі? Па-першае, узросшая цана замежнай валюты зробіць імпартныя тавары больш дарагімі, што прывядзе да скарачэння імпарту. Па-другое, зніжэнне цэн на айчынныя тавары павялічыць попыт на іх за межамі рэспублікі і, значыцца, прывядзе да росту даходаў ад экспарту. Гэта дазволіць бюджэтнаму дэфіцыту ператварыцца ў станоўчае сальда, палепшыцца гандлёвы баланс.

Аднак, каб дэвальвацыя ўвянчалася сапраўдным поспехам, яна павінна выступаць як рэальнае патаненне беларускага рубля і ні ў якім разе не можа быць кампенсавана ростам зарплаты і, адпаведна, унутраных цэн. Каб прадухіліць скачок цэн, дэвальвацыя павінна суправаджацца ўзмацненнем фіскальна-грашовай палітыкі. Звычайна рэальнай дэвальвацыі дасягнуць вельмі цяжка, паколькі яна вядзе да скарачэння рэальнай заработнай платы і зніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва. І як толькі, каб пазбегнуць сацыяльных канфліктаў, зарплата ў большасці працуючых пачынае расці — адразу ж павялічваюцца выдаткі вытворчасці і, адпаведна, цэны. (Мы ўжо ішлі па спіралі «дэвальвацыя—інфляцыя—дэвальвацыя» і не хацелася б апынуцца на ёй зноў.)

Згодна з эканамічнай тэорыяй, дэвальвацыя будзе больш эфектыўнай толькі ў тым выпадку, калі зарплата застанецца «замарожанай» на папярэднім узроўні. І толькі тады рэспубліка сапраўды зможа экспартаваць больш, а імпартаваць менш. Але гэта азначае адначасова і зніжэнне нашага ўзроўню жыцця. Што ж, на жаль, недарагіх ці зусім бясплатных шляхоў выпраўлення знешняга дысбалансу ў эканоміцы не існуе.

Чаго ж застаецца чакаць усім нам — прадпрыемствам, фірмам, хатнім гаспадыням? Збліжэння рэальнага і намінальнага курсаў долара, як прапаноўваюць некаторыя спецыялісты, ці ўсё ж павышэння яго курса адносна беларускага рубля? І можа час, нарэшце, ураду і Нацбанку прыняць пад увагу рэкамендацыі Міжнароднага валютнага фонду, што датычацца стабілізацыі беларускай эканомікі?

А пакуль нам трэба паклапаціцца аб захаванасці ўласных накопленых зберажэнняў. Найбольш прыдатным спосабам іх захавання з'яўляецца размяшчэнне іх на валютных дэпазітах у такіх найбольш надзейных фінансавых і банкаўскіх структурах, як «Белбізнесбанк» (у тым ліку адзін з новых філіялаў «Датабанк»), «Приорбанк», «Белзнешэканомбанк», фінансавая кампанія «Белбізнесінвест» і інш. Тым больш, што з пачаткам працэсу дэвальвацыі магчыма і павышэнне гадавых працэнтных ставак па валютных укладах.

**Марына МАРКУСЕНКА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АНБ.**

## АЙЧЫННЫЯ ВЫТВОРЦЫ НА БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ «ЧОРНАГА АЎТОРКА» ПАКУЛЬ НЕ АДРЭАГАВАЛІ

**Амаль не адрэагаваў на абвальнае паніжэнне курса беларускага рубля буйнейшы сельскагаспадарчы рынак краіны — Камароўскі.**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў планавым аддзеле рынку, у мінулыя выхадныя цэны на прадукты харчавання на Камароўцы мала адрозніваліся ад перадпавагодніх і складалі (тут і далей за 1 кілаграм): куры — 19—28 тысяч рублёў, свініна — 28—65, ялавічына — 18—48, цяляціна — 28—55, бараніна — 28—60, масла —40—45, тварог — 25—30, смятана — 25—26, бульба — 4—6 тысяч. Літр малака каштаваў ад 4 да 9 тысяч рублёў, дзесятак яек — ад 15 да 20 тысяч. Нязначна падаражэла хіба толькі садавіна, прычым пераважна прывазная. Зараз, напрыклад, за кілаграм яблыкаў на Камароўцы просяць 10—35 тысяч, груш — 20—45, бананаў — 10—15, апельсінаў 13—16, мандарынаў — 15—30, лімонаў — 15—35 тысяч. Чакаецца, што ў бліжэйшыя дні на рынку па-ранейшаму працягнецца панаванне цэнавага штылю. Аднак ці захаваецца ён і надалей, на думку спецыялістаў планавага аддзела, будзе ўсё ж такі залежаць ад змены біржавога курса долара.

**Сяргей ГРЫБ.**

### *СПОРТ-ЭКСПРЭС*

## ШОСТАЕ МЕСЦА — ГЭТА ЎЖО ПОСПЕХ

У чэшскім горадзе Штрабску Плесо прайшоў этап Кубка свету па двухбор'ю. Беларусь на гэтых спаборніцтвах прадстаўляў Сяргей Захаранка, які выступіў даволі ўдала. Па выніках скачкоў з трампліна і лыжнай гонкі на 15 км наш двухборац аказаўся на шостым месцы.

## ЦІ ЗАСТАНЁМСЯ ЗНОЎ У РОЛІ СТАТЫСТАЎ?

Гэтымі днямі ў чэшскім горадзе Нова-Место-на-Мораве закончыўся адзін з этапаў Кубка свету па лыжных гонках, дзе ўдзельнічалі і нашы спартсмены.

На жаль, на ўчарашні дзень інфармацыі аб выступленнях атрымаць не ўдалося. Вядома толькі, што гонар рэспублікі абаранялі 9 лыжнікаў.

Мужчынская каманда налічвала пяць чалавек. Гэта Сяргей Далідовіч, Аляксей Трэгубаў, Васіль Гаўруковіч, Ігар Обухаў, Аляксандр Сальнікаў. Жаночы квартэт складаўся з Кацярыны Кавалевіч, Алены Сянькевіч, Людмілы Каролік і Наталлі Слонкінай.

На поспех беларусам разлічваць цяжка, бо апошнім часам наш лыжны спорт аказаўся ў заняпадзе, і вышэй за другую дзясятку на прэстыжных міжнародных спаборніцтвах беларусам падымацца не ўдавалася.

## МУЖЧЫНСКІ КВАРТЭТ АКАЗАЎСЯ СЯРЭБРАНЫМ

У італьянскім мястэчку Антэрсельва (Антхольц) завяршыўся чарговы этап Кубка свету па біятлону. Першыя два дні спаборніцтваў поспеху беларускім «страляючым лыжнікам» не прынеслі: адбіўся шматдзённы аўтобусны пераезд з Беларусі на Апеніны.

Затое ў заключны дзень спаборніцтваў прыемна здзівіла мужчынская зборная. У эстафетнай гонцы 4х7,5 км наш квартэт у саставе Аляксея Айдарава, Вадзіма Сашурына, Алега Рыжанкова і Аляксандра Папова фінішавала другой, адстаўшы ўсяго на паўхвіліны ад зборнай Расіі. Характэрна, што абедзве каманды прайшлі 30-кіламетровую дыстанцыю без промахаў. Жаночая зборная Беларусі аказалася толькі на 8-м месцы.

Пасля гэтых спаборніцтваў расіянін Віктар Драчоў узначаліў спіс мацнейшых у асабістым заліку розыгрышу Кубка свету.

## ЦІВАЛІ ПАКУЛЬ У АЎТСАЙДЭРАХ

Хакеісты мінскага «Цівалі» заўтра правядуць трэці запар дамашні матч у розыгрышы кубка Міжнацыянальнай хакейнай лігі. Сапернікам мінчан будзе кіеўскі «Сокал». На першым этапе чэмпіянату МХЛ мінчане ўжо двойчы сустракаліся з украінскімі хакеістамі і маюць пакуль адмоўны баланс, прайграўшы адну сустрэчу 0:5 і звёўшы другі матч унічыю — 0:0.

## «ПРЕССБОЛ» СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

**Сёння спартыўнай газеце, а яшчэ нядаўна штотыднёвіку, «Прессбол» спаўняецца 5 гадоў. За гэты час у свет выйшла 250 нумароў.**

**З нагоды юбілею некалькі пытанняў галоўнаму рэдактару выдання Уладзіміру Беражкову.**

**— Уладзімір Пятровіч, як жыве сёння «Прессбол»?**

— Нармальна. Можна сказаць лепш, чым раней, паколькі газета апошнім часам набыла фінансавую самастойнасць, а яе творчыя работнікі маюць пэўны запас вопыту.

Зараз, вядома, як кашмарны сон успамінаецца перыяд набыцця самастойнасці. Мы змагаліся за сваё выжыванне без датацый, вучыліся на сваіх памылках і, у рэшце рэшт, сталі на ногі. У многім дзякуючы прыходу ў рэдакцыю нашага даўняга чытача прадпрымальніка Міхаіла Малочнікава. Цяпер я займаюся толькі творчым працэсам, а Міхаіл Давыдавіч — гаспадарча-камерцыйнай дзейнасцю. Дарэчы, ён з'яўляецца генеральным дырэктарам закрытага акцыянернага таварыства «Прессбол».

**— Што можна сказаць пра вашых чытачоў?**

— Яны самыя разнастайныя. Пры тыражу ў 50 тысяч экземпляраў нас больш за ўсё чытае мужчынскае насельніцтва рэспублікі. Праўда, нават сацыялагічнае апытанне, якое мы нядаўна правялі, не вызначыла дакладна чытачоў па сацыяльнай праслойцы. Значыць, чытаюць усе.

**— Пагаворым пра перспектыву?**

— Чаму б і не? Мы толькі і працуем на яе, інакш наогул не трэба было б і існаваць.

Пачынаючы з новага года газета перайшла на двухразовы выхад у тыдзень. З другой паловы 1996 года плануем выходзіць тры разы на тыдзень.

**— І газета пры гэтым зможа захаваць свой статут «куслівай».**

— Думаю, што так. Шашкай махаць у паветры не збіраемся — гэты перыяд ужо даўно прайшоў. Як кажуць, расцём, становімся больш дарослымі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ХТО ПРЫМЕ МЕРЫ?*

## МІНУСАВАЯ ТЭМПЕРАТУРА АБЯЦАННЯЎ

Мы пражываем у пяціпавярховым доме, які ацяпляецца кацельнай Слуцкага аўтарамонтнага завода. Наколькі ведаем, завод забяспечаны палівам, але ад гэтага нам не лягчэй. Калі на вуліцы мінус 14 градусаў, у нас у кватэрах усяго плюс 12—14. Уся прычына ў тым, што дом ацяпляецца 4 гадзіны ў суткі: 2 — раніцай і 2 — увечары.

Неаднаразова, яшчэ ў мінулы ацяпляльны сезон, а таксама і ў гэты звярталіся да дырэктара завода тав. Дудзінскага, але сутыкаліся толькі з грубасцю.

Летась двойчы прасілі дапамогі ў старшыні гарвыканкома А. Сайко, аднак чулі адны абяцанні, а канкрэтныя меры не прынятыя да гэтага часу.

Праўда, перад выбарамі дом наш ацяпляўся добра, і вада гарачая была. Рабілася гэта па ўказанню дырэктара: А. Сайко выбіраўся ў дэпутаты. А з 30 лістапада ўсё пайшло па-ранейшаму: і вада, і батарэі ледзь-ледзь цёпленькія.

Паважаная рэдакцыя!

Пераканаўча просім вас не публікаваць нашы прозвішчы, таму што большая частка жыльцоў працуе на Слуцкім аўтарамзаводзе і гэта пагражае ім звальненнем з работы.

**Жыхары дома № 31 па вуліцы Леніна г. Слуцка (пад пісьмом значыцца 38 подпісаў).**

*ПАСЛЯ ПРАВЕРКІ СКАРГІ*

## ЛЯГЧЭЙ ЗАРАБІЦЬ, ЧЫМ АТРЫМАЦЬ

Жыхар в. Малыя Нястанавічы Лагойскага раёна С. Маркевіч вырашыў увосень папрацаваць у мясцовым калгасе «Шлях Леніна» на пад'ёме льнотрасты. Аб тым, як гаспадарка «аддзячыла» за гэта чалавека, расказана ў пісьме «Ці варта дапамагаць калгасу?», змешчаным 5 снежня ў «Звяздзе».

— Па гэтаму факту, — паведамляецца ў рэагаванні **начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Лагойскага райвыканкома А. Гаро,** — праведзена праверка на месцы. У выніку яе ўстаноўлена, што аўтар пісьма сапраўды прымаў удзел у вязцы льнотрасты і яе пагрузцы. Усяго, паводле даных бухгалтарскага ўліку, ён звязаў 7470 кілаграмаў трасты і пагрузіў 1850 кг. За гэтую работу (ён адпрацаваў на вязцы трасты 32 дні і адзін дзень на пагрузцы) налічана 682.340 рублёў.

Аднак у верасні яму сапраўды было выдадзена толькі 115 тысяч рублёў. Астатняя заработная плата налічана на кастрычнік. На жаль, на дзень праверкі з-за адсутнасці грошай зарплата за гэты месяц не выплачана не толькі С. Маркевічу, але і іншым калгаснікам.

У бліжэйшы час заработная плата за кастрычнік у калгасе «Шлях Леніна» будзе выплачана.

Усё гэта, вядома, добра. Але тым часам на календары ўжо студзень 1996 года.

# НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

### З ВАЙНЫ

— Я не люблю пра вайну ўспамінаць. У школу завуць на вечар, не, кажу, я думаць пра вайну не магу, не тое што расказваць.

У сорак другім мяне прызвалі, васемнаццаць поўных не было, і на Волхаўскі фронт, у мінёрны батальён з дзяўчат накіравалі. Па начах ад мін расчышчалі нейтральную паласу, рыхтавалі шлях для наступаючых танкаў і пяхоты. Міны свае, міны нямецкія — паспрабуй адгадай, як яны ўстаноўлены. Ну і падрываліся. Шмат нашых дзяўчат падарвалася, многія калекамі засталіся. Пад Масквою жыве мая сяброўка, дваццаць трэцяга года нараджэння. Зоя. Без абедзвюх ног.

Аднойчы прыслалі да нас хлопцаў-казахаў. Нічога не ўмеюць. Адзін — ноччу было — крычыць з паласы:

— Дзе тут міны? Нічога не бачу.

— Зоя, — кажу, — ідзі. Дапамажы яму.

Зоя толькі ступіла — і бабахнула!

На маім сумленні гэтая дзяўчына. Я дала дзвесце грамаў крыві, але ног не дасі. Цяпер вось піша: прыязджай ды прыязджай. А як я паеду? Як ёй у вочы гляну?

### ДОЧКІ

Гасцініца ў Гомелі. Прыбіральшчыца. Згорбленая, худая, бяззубая, старая.

— Колькі вам гадоў, бабулька? — пытаюся ў яе.

— Не бабулька я, — адказвае. — Бабулькаю мяне зрабіла жыццё.

— Ну, я думаю, такую маці цяпер дзеці любяць і паважаюць, калі на свой хлеб пайшлі.

Бабуля раптам заплакала:

— Што вы, не толькі не памагаюць, на парог не пускаюць. Адна ў Германіі была — маці саромеецца, у другой муж бачыць мяне не хоча... А трэцяя... Трэцяя прывезла днямі Алега, унучка: дагледзь. Я даглядала дзень, а ўвечары павезла да іх. Зайшла ў кватэру, распранулася, не паспела з дарогі аддыхацца: «Мама, збірайся дамоў: у нас госці будуць». Размову пачула ўнучка Ірачка, пятнаццаць гадкоў: «Мама, што ты робіш, гэта ж нашая бабуля. А ты яе з кватэры выганяеш». «Не лезь не ў сваю справу, калі ў цябе не пытаюць». Ну, я апранулася зноў. Папомні, кажу, маё слова: і ты будзеш старой. І цябе дзеці выганяць.

Уздыхнуўшы, старая працягвала:

— Чацвёртая дачка — цырульніца. Гэта яшчэ паўбяды, але вельмі гуляшчая. Звязалася з адным пенсіянерам. А яго пасадзілі — нешта ўкраў. Вось і перажывае. На семнаццаць кілаграмаў пахудзела. А якая была прыгажуня! Як лялька!

### НЕ ДАЧАКАЎСЯ ВЕЧАРА

Вольгу Мікалаеўну, маладую няню дзіцячага садка, не пазнаць. Прыйшла на работу ў моднай сукенцы, у туфлях на высокіх абцасіках, з прычоскай, зробленай у цырульні.

— Што такое ў вас, Вольга Мікалаеўна? Дзень нараджэння? Наваселле?

Вольга Мікалаеўна ганарліва выгукнула:

— Іду ў рэстаран!

У рэстаране яна ў свае дваццаць два гады ні разу не была. Прыехала з вёскі, спярша вучылася ў педвучылішчы, потым выйшла замуж, нарадзіла дзіця — тут ужо не да рэстаранаў.

І вось дзеля такой падзеі Вольга Мікалаеўна пайшла на нечуваныя ахвяры. Яна са сваёй маленькай зарплаты аддала мужу- электрыку (гэта яго калегі задумалі калектыўны паход у рэстаран) цэлых сто тысяч рублёў. Акрамя гэтага, патраціла вялікія грошы на сукенку, на ўкладку валасоў.

Увесь дзень Вольга Мікалаеўна з нецярпеннем чакала вечара. Штораз зыркала на гадзіннік, бегала да люстэрка (барані Бог сапсавалася прычоска?), часта прымервала святочныя туфлі — цеснаватыя былі, не свае, у сяброўкі пазычыла. Нарэшце закончыўся рабочы дзень.

Дамоў, хутчэй дамоў! Муж, мабыць, ужо не адну гадзіну чакае.

А на другі дзень Вольга Мікалаеўна прыйшла на работу змрочная — аж пачарнела з твару.

— Што здарылася? Якая ў вас бяда?

Палову дня да яе нельга было падступіцца, цэлы дзень яна маўчала. І толькі потым, у канцы работы, калі засталася ў садку сам-насам з немаладой ужо, вельмі добрай выхавацелькай, якую яна любіла і паважала, са слязамі на вачах кінулася ёй на грудзі.

Не была Вольга Мікалаеўна ў рэстаране. Прыбегла дамоў, а муж ляжыць на канапе п'яны. Не дачакаўся вечара, прапіў усе грошы.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**



фота Анатоля КЛЯШЧУКА.

*ЛЁСЫ*

## НАВАСЕЛЛЕ НЕ ПА ЎЛАСНАМУ ЖАДАННЮ

**Як жывуць і на што крыўдуюць чарнобыльцы-перасяленцы і бежанцы, што не па сваёй волі апынуліся на Шклоўшчыне?**

Шклоўшчына — зямля гасцінная, у свой час яна стала новай малой радзімай для многіх перасяленцаў з раёнаў, забруджаных у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Менавіта з гэтай мэтай у Гавядах быў пабудаваны новы пасёлак, тут створана і дзейнічае аграгандлёвае прадпрыемства «Шклоўскае». Вось сюды ў снежні 1992-га з далёкага Таджыкістана разам з мужам Уладзімірам Іванавічам і дзецьмі пераехала жыць і ўладкавалася на работу Тамара Іванаўна Кузняцова, немка па нацыянальнасці.

Ніякавата неяк гучыць, у першую чаргу асабіста для Тамары Кузняцовай, і такое вызначэнне, што яна — бежанка. Менавіта тры гады назад Кузняцовы збеглі, а не пераехалі, кінуўшы звычнае жытло пад прыгожым Душанбе, каб ўратаваць ад вялікага няшчасця сваю мнагадзетную сям'ю.

Дарэчы, паводле слоў Кузняцовай, толькі ў Гавядах, у АГП «Шклоўскае», знайшлі прытулак яшчэ сем сем'яў з сонечнага Таджыкістана.

Муж Кузняцовай, які «там» меў высокую кваліфікацыю станочніка шырокага профілю, цяпер разам з Тамарай Іванаўнай стаў агароднікам. Але пра гэта зусім не думалася тады, калі паўстала пагроза жыццю іх саміх і дзяцей. Дзесяць сутак, ледзь вырваўшыся з палону міжнацыянальнай бойкі, за тысячы кіламетраў дабіраліся яны да далёкіх сваякоў у Беларусь. У народзе нездарма кажуць, што любы пераезд раўназначны пажару. Але Кузняцовы ўдзячныя беларусам, кіраўніцтву АГП «Шклоўскае», у першую чаргу яго дырэктару А. Папкову, за набыты прытулак і спакой.

Жыллё яны атрымалі ў адным з васьмікватэрных дамоў, якія будаваліся тут у свой час па тыпавому праекту для будучых жыхароў — перасяленцаў з раёнаў, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Дзякуй Богу, знайшлося месца і бежанцам.

Кажуць, доранаму каню ў зубы не глядзяць. Але не адны яны, бежанцы, а і іншыя жыхары Гавяд таксама справядліва наракаюць на тых архітэктараў, якія спраектавалі ў іх пасёлку жыллё, зусім «далёкае» ад сельскай мясцовасці. Навошта тут шматкватэрныя дамы? І што зробіш на малюсенькіх кавалачках зямлі каля іх? Усё ж Кузняцовы трымаюць і цяля, і двух парасят. Трэба было б узвесці яшчэ прыбудоўку і для куратніка...

Тамара Іванаўна не забылася яшчэ на тое, як вырошчвала, песціла лімоны і персікі на таджыкскай зямлі. Цяпер жа яна — адна з лепшых агародніц у мясцовым аграгандлёвым прадпрыемстве. І ў тым, што тут за мінулы сезон шмат рэалізавана агародніны, нарыхтаваны сотні бочак салёных агуркоў — вялікая доля асабістай працы Тамары Іванаўны.

— Усё ж прывыкнуць вельмі няпроста. 27 гадоў пражыла я ў Таджыкістане, муж там нарадзіўся, часта сняцца мясціны пад Душанбе, — прызнаецца Тамара Іванаўна, потым дадае: — Вось, здаецца, немалы ўжо час жывём мы ў Гавядах, а звыкнуцца ніяк не можам.

Людзям заўсёды больш імпанавала яднацца, чым размяжоўвацца і чыніць перашкоды. І дасць Бог, усё памяняецца да лепшага ў лёсах людскіх, станем мы хоць крыху заможнымі, шчаслівымі, больш шчырымі і гасціннымі. Абавязкова адчуе гэта і Тамара Іванаўна Кузняцова — бежанка, мнагадзетная маці і руплівая працаўніца АГП «Шклоўскае».

**Уладзімір ПАЎЛАЎ.**

*Шклоўскі раён.*

*КРЫК ДУШЫ*

# ЗАКОН ЯК ДЫШАЛЬ?

**ВОСЬ УЖО НЕ ДУМАЛА Я, юрыст па адукацыі, што калі-небудзь прамоўлю такія словы, бо мяне вучылі наступнай ісціне: нашы законы — самыя гуманныя, самыя справядлівыя, яны стаяць на варце інтарэсаў чалавека працы. Але цяпер, калі вакол маёй асобы разгарэўся сыр-бор, можна сказаць, на рэспубліканскім узроўні, я вось і думаю: няўжо сапраўды настолькі трапны гэты выраз — «закон як дышаль»?**

А справа вось у чым. Усё сваё жыццё я аддала рабоце ў дзяржаўных структурах. І калі на пасадзе дырэктара Добрушскага цэнтра занятасці насельніцтва дасягнула пенсіённага ўзросту, мяне прымусова адправілі на так званы «заслужаны адпачынак», хаця я прасіла дырэктара Гомельскага абласнога цэнтра занятасці Івана Конанцава даць магчымасць мне папрацаваць да канца 1995 года. Іван Ільіч пры гэтым спаслаўся на Закон Рэспублікі Беларусь «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце», на яго дваццаць першы артыкул, дзе сказана, што наймальнік можа звальняць работніка пры дасягненні ім пенсіённага ўзросту.

Але, як юрыст, я ведаю аб тым, што вышэйпамянёны артыкул не адпавядае Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, аб чым ёсць заключэнне Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь ад 23 верасня 1994 года «Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь нормаў Кодэкса законаў аб працы, якія прадугледжваюць магчымасць скасавання працоўнага дагавора ў сувязі з дасягненнем работнікам пенсіённага ўзросту». Калі я заявіла аб гэтым Івану Ільічу, ён сказаў:

— Вы маеце рацыю, і я маю яе. Бо сапраўды ёсць заключэнне Канстытуцыйнага суда аб тым, што нельга адпраўляць служачага на пенсію без яго згоды. Але ж ёсць і Закон «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце», які ніхто не адмяняў.

Адным словам, закон як дышаль. Няхай суды ламаюць галаву, як выкруціцца з гэтага становішча. Я палічыла сваё звальненне незаконным і папрасіла суд аднавіць мяне на рабоце са спагнаннем сярэдняга заработку за час вымушанага прагулу. А далей атрымалася вось што.

У маі 1995 года суд Цэнтральнага раёна Гомеля ў маім іску адмовіў, у чэрвені калегія па грамадзянскіх справах абласнога суда, куды я звярнулася, тое рашэнне пакінула без змянення. У справу ўмяшалася абласная пракуратура, якая вынесла свой пратэст, але прэзідыум абласнога суда адхіліў яго. Да вышэйпамянёнага матыву (Закона «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце») суды дабавілі яшчэ і тое, што я, маўляў, без уважлівых прычын прапусціла тэрміны звяртання ў суд з іскам аб аднаўленні на рабоце.

А што ж пракуратура? Яна не згодна з высновамі, якія зроблены судовымі інстанцыямі. І вось чаму. Закон быў уведзены ў дзеянне 1 сакавіка 1994 года, гэта значыць да ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (15 сакавіка 1994 года). Заключэнне ж вышэйпамянёнага Канстытуцыйнага суда ад 23 верасня 1994 года канстатавала, што звальненне такога работніка, як я (дзяржапаратчыка), супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь як дыскрымінацыя па ўзросту (а я была звольнена 30 сакавіка 1995 года). Канстытуцыйны суд абавязваў органы дзяржаўнай улады ў трохмесячны тэрмін прывесці свае акты, якія датычаць скасавання працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка ў сувязі з дасягненнем работнікам пенсіённага ўзросту, у адпаведнасць з Канстытуцыяй, аднак, як бачна, гэта не было зроблена і праз год.

Дык што, можа ў гэтым мая віна? Або ў тым, што я быццам бы без уважлівых прычын на дзевяць дзён пазней звярнулася ў суд з іскам? Дык у справе ж маецца даведка аб тым, што з 25 красавіка па 8 мая я цяжка хварэла.

Калі на абласным узроўні дэбаты паміж пракуратурай і судамі закончыліся на карысць апошніх, я напісала скаргу ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь. І вось што адказаў мне выконваючы абавязкі намесніка старшыні Вярхоўнага суда В. Русакевіч 11 снежня 1995 года: «З заявай аб аднаўленні на рабоце вы можаце звярнуцца ў райсуд па месцы знаходжання адказчыка. Па дапамогу ў афармленні іскавых патрабаванняў вы маеце права звярнуцца ў юрыдычную кансультацыю да адваката».

Прабачце, высокашаноўны начальнік, але я ўжо прайшла ўсе судовыя інстанцыі і засталася яшчэ адна — ваша, Вярхоўнага суда. А тут — такая ваша парада. Ці не крыўдна?

Звальненне маё незаконнае і бесчалавечнае. Мяне свядома пазбавілі шасці службовых акладаў, якія мне належаць, калі б мяне звольнілі па адстаўцы. Пры аднаўленні і выплаце мне належнага па закону я тут жа звольнюся, бо з такім кіраўніком, як Іван Конанцаў, я працаваць не хачу. Я ўдава, адна выхавала дваіх дзяцей, заўсёды працавала і жыла сумленна. І ўпэўнена, што нездарма Пракуратура Рэспублікі Беларусь у парадку нагляду просіць судовую калегію па грамадзянскіх справах Вярхоўнага суда краіны ўсе судовыя пастановы адносна мяне адмяніць і справу накіраваць на новы судовы разгляд. Я ўсё ж спадзяюся на справядлівасць. Але колькі ўжо сапсавала нерваў...

**Зінаіда ТАРОШЧЫНА, вымушаная пенсіянерка і беспрацоўная.**

*г. Добруш.*

# БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА: МУДРАСЦЬ І РАЗУМЕННЕ

***ЦІКАВАЯ передНавагодняя вестка з Вільнюса: Беларусь сярод гандлёвых партнёраў Літвы пасля Расіі і Германіі трывала заняла 3-е месца. А суседка Літвы сярод гандлёвых партнёраў нашай рэспублікі ўзнялася з 8-га ў 1994 годзе на 5-е ў 1995 г. Аб тым, як умацоўваюцца добрасуседкія адносіны паміж нашымі дзяржавамі, расказвае Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Літве Яўген ВАЙТОВІЧ.***

**— Яўген Канстанцінавіч, з якім пачуццём і настроем вы сустракалі 1996 год?**

— З пачуццём задавальнення і аптымізму. Беларуска-літоўскія адносіны развіваліся даволі дынамічна. У час візіту ў Літву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі былі падпісаны два асноўныя дакументы, якія дазволілі закласці трывалы фундамент нашых адносінаў на доўгую перспектыву. Гэта палітычны дагавор і дагавор аб межах. Акрамя таго быў падпісаны шэраг жыццёва важных пагадненняў у розных сферах дзейнасці, і ў першую чаргу ў галіне гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Асабліва задавальняе нас узаемадзеянне ў сферы эканомікі. За 10 месяцаў мінулага года тавараабарот з Літвой павялічыўся ў 4 разы.

**— Добра. І ўсё ж як на фоне несумненнай актывізацыі беларуска-літоўскіх адносінаў вы бачыце перспектывы іх развіцця?**

— Галоўнай задачай, на мой погляд, будзе далейшае ўмацаванне дасягнутых паміж нашымі краінамі стабільных адносінаў, пошук шляхоў расшырэння ўзаемадзеяння ў розных сферах, асабліва там, дзе традыцыйна было супадзенне нашых інтарэсаў. У прыватнасці, мы будзем актыўна працаваць над рэалізацыяй аднаго з напрамкаў эканамічнай стратэгіі нашай дзяржавы. Гэта ўдзел Беларусі ў глабальных, доўгатэрміновых міждзяржаўных праграмах, якія заўсёды з'яўляюцца рэальным гарантам нарошчвання эканамічнага супрацоўніцтва. І тут для нас перш за ўсё цікавая праграма развіцця еўрапейскага транспартнага калідора «Усход—Захад», які праходзіць праз тэрыторыі Беларусі і Літвы, а таксама праграма выкарыстання Клайпедскага порта.

**— Адносіны нашых краін набылі не толькі дынамізм, але і новую якасць. Скажыце, ці заўсёды было лёгка іх будаваць? Што больш за ўсё стала павучальным для вас у гэтым плане?**

— Беларусь і Літва змаглі так пабудаваць свае адносіны, што за параўнальна кароткі часовы перыяд былі вырашаны даволі складаныя праблемы — эканамічныя, юрыдычныя, калі хочаце, чалавечыя. Прыйшлося ўрэгуляваць рад пагранічных пытанняў, падрыхтаваць значную колькасць дакументаў, якія рэгулююць нашы адносіны на якасна новай аснове.

Нашы краіны прадэманстравалі прыклад таго, як дзве суседнія дзяржавы спакойна, узважана, на ўзаемапаважлівай аснове могуць падыходзіць да вырашэння спрэчных праблем.

**— Праблемы, якія існуюць у адносінах паміж нашымі краінамі, часам выкарыстоўваюцца прэсай пэўнай арыентацыі, прадстаўнікі якой ажыццяўляюць спробы стварыць вобраз Беларусі як краіны кансерватыўнай, краіны, якая стала на шлях дыктатуры і не жадае ісці па шляху рэформаў. Скажыце, як пасольства рэагуе на такія выступленні і артыкулы?**

— У процівагу такім публікацыям пасольства стараецца прадаставіць сваю інфармацыю. Ва ўсе ўплывовыя газеты мы рэгулярна рассылаем прэс-рэлізы, сустракаемся з журналістамі вядучых выданняў Літвы, а калі хто пераходзіць усякія этычныя межы дазволенага, рэагуем нотай, гэта значыць афіцыйным пратэстам супраць непраўдзівага асвятлення падзей, якія адбываюцца ў нашай краіне.

На шчасце, у Літве многа разумных журналістаў, якія паважліва ставяцца да ўсіх ажыццяўляемых нашай дзяржавай намаганняў пераадолець яшчэ існуючыя складанасці. І мы ўдзячныя ім за такое разуменне.

**— У новаабраным парламенце Беларусі найбольш унушальнай стала фракцыя камуністаў. Як, на ваш погляд, на гэта рэагуюць у Літве?**

— Натуральна, такая заклапочанасць у некаторых палітычных колах адчуваецца. І нам, работнікам пасольства, прыходзіцца тлумачыць, што сённяшнія камуністы Беларусі — гэта не артадоксы і дагматыкі ў горшым сэнсе гэтага слова. Я схільны верыць, што новы Вярхоўны Савет будзе дастаткова дэмакратычным, здольным на кампрамісы ў імя спадзяванняў народа.

**— Вельмі сціпла выглядае будынак беларускага пасольства на фоне прэстыжных асабнякоў іншых дыпламатычных місій. Якія ў вас перспектывы?**

— Добрыя. Мы абмяняліся комплексам будынкаў з літоўскім пасольствам у Беларусі па сімвалічнай цане 100 долараў. Наша пасольства будзе размешчана ў адным з цудоўных будынкаў (архітэктурным помніку) Вільнюса пасля рэстаўрацыі.

**— І апошняе пытанне. Нагрузкі ў вас вялікія, але ўсё ж як праводзіце вольны час?**

— Паважаю літоўскую культуру, люблю тэатр. Цікаўлюся народнай творчасцю. Люблю і проста так пагуляць па прыгожых вуліцах Вільнюса. З'яўляюся не толькі адным з арганізатараў, але і ўдзельнікам усіх культурных мерапрыемстваў Беларусі ў Літве. Мару прывезці ў Вільнюс беларускі балет, думаю, што яго выступленне прынясе сапраўднае задавальненне літоўскай рэспубліцы.

**Гутарыў Альгімантас БРАЗАЙЦІС.**

*ПОГЛЯД*

# І АДРОДЗІЦЦА БЕЛАРУСЬ?.. ЯК? КАЛІ? І КІМ?

**НАПРЫКАНЦЫ мінулага года ў беларускай прэсе з'явіліся публікацыі, у якіх аўтары выказваюць думку, што адраджэнне Беларусі пачнецца з вёскі. Не ўступаючы ў палеміку, хацелася б паразважаць на гэтую тэму.**

* * *

Беларускае адраджэнне сёння трапіла ў паласу нестабільнасці і непрадказальнасці. Наконт гэтай праблемы ў грамадстве таксама няма еднасці. Хтосьці да адраджэння ставіцца раўнадушна, іншыя — нават варожа. Ёсць і тыя, хто думае ажывіць нацыю праз царкву альбо яшчэ спадзяецца на вёску...

Вёска ж ніколі не была рухавіком цывілізацыі, ад біблейскіх часоў гэтую місію выконваў горад. Менавіта ў ім канцэнтраваліся перадавыя людзі свайго часу. Мысліцелі, філосафы, паэты знаходзілі ў горадзе прыстанак, мелі высокіх абаронцаў сярод тагачаснай знаці. Ды і сучасны горад у плане прагрэсу выконвае аналагічную ролю. У ім знаходзяцца музеі, культурныя цэнтры, тут захоўваюцца набыткі многіх пакаленняў.

Несумненна, калі б зніклі гарады — знікла б і цывілізацыя. І наогул, не мною сказана, што развіццё нашай цывілізацыі магчыма толькі пры даволі высокай шчыльнасці насельніцтва на зямным шары. Дастаткова знізіць колькасць жыхароў Зямлі да пэўнай рысы — і наступіць заняпад. Народы, якія не ведалі гарадоў, намнога адсталі ў сваім развіцці. Гэта добра бачна на прыкладзе народаў Поўначы ці тых жа качэўнікаў.

Не будзем ідэалізаваць горад у цэлым, бо разам са станоўчым горад з'яўляецца рассаднікам бандытызму, наркаманіі і г. д. Гэта адна з адмоўных рыс гарадскога жыцця, але з гэтым прыходзіцца мірыцца.

Вёска ж дзякуючы кансерватызму была захавальніцай сваёй маралі, народных традыцый, звычаяў ды фальклору... але вёска не магла прапанаваць нічога новага, служыць прагрэсу, яна «цягнулася» за горадам, брала прыклад з яго.

* * *

Бяда беларускага народа ў тым, што ён вясковая нацыя. А калі ўлічыць, што гэтую нацыю яшчэ раз'яднала і рэлігія, то няма чаго здзіўляцца, чаму перад намі паўстала сёння столькі праблем, якіх у суседніх народаў няма.

На пачатку гэтага стагоддзя ў гарадах і мястэчках Беларусі беларусы амаль не жылі. Гарадское насельніцтва складалася з яўрэяў і палякаў на Захадзе і яўрэяў і рускіх — на Усходзе. Дарэчы, у іншых мястэчках яўрэяў пражывала да 80 працэнтаў. Адарванасць вёскі ад гарадскога асяроддзя ізалявала беларусаў у апошнія стагоддзі і ад сусветнай культуры. У значнай меры гэтаму спрыяў і заняпад Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы. Набыткі беларусаў у мінулыя часы ў сферы «высокай» культуры: паэзіі, музыцы, філасофіі неўпрыкмет запісалі на свой «рахунак» палякі, рускія, літоўцы... А беларусы, «адгарадзіўшыся» ад усяго свету балотамі і лясамі, «варыліся» ў сваім фальклоры ды мастацтве, якое заўсёды было прыкладным, ужытковым.

* * *

Калі ў мінулым вёска ўсё ж была захавальніцай беларускасці, народных традыцый, то пры наступіўшай саветызацыі і калектывізацыі спрадвечны ўклад жыцця сялян пачаў надзвычай хутка разбурацца. Ратуючыся ад гвалту і ўціску, вяскоўцы кінуліся ў горад і, імкнучыся хутчэй «зліцца» з ім, ужо ненавідзелі ўсё вясковае, а значыць, і беларускае, найперш мову. А ўспомнім абразлівае «колхозник», слова, якое сведчыла, што чалавек знаходзіцца на самай нізкай сацыяльнай ступені.

Гарады пачалі хутка разрастацца за кошт наплыву людзей з вёсак. Учарашнія сяляне станавіліся гараджанамі, і хаця яны стараліся «адхрысціцца» ад вёскі, па сваёй псіхалогіі яны заставаліся сялянамі, запалоханымі, раз'яднанымі аднаасобнікамі з усім наборам вясковых комплексаў.

Улады даволі лоўка выкарысталі духоўны стан беларусаў і пачалі актыўна праводзіць палітыку русіфікацыі, прыкрыўшы яе інтэрнацыяналізмам. Між іншым, і палякі на адпаведным адрэзку часу праводзілі адносна беларусаў палітыку паланізацыі. Праўда, там былі іншыя метады і падыход.

* * *

Беларуская інтэлігенцыя, галоўным чынам творчая, усё яшчэ не можа пазбавіцца сялянскай філасофіі, душой яна ўсё яшчэ там, у вёсцы. Гэтак было трыццаць гадоў назад, так яно і сёння. Многія нашы творцы бачаць у вёсцы Беларусь. Прысвячаюць ёй вершы, пішуць карціны з дзядкамі ды бабкамі, настальгічна шукаюць учарашні дзень. А ручнік наогул стаў нейкім сімвалам беларускасці. Нейкае свята ці ўрачыстасць — над сцэнай вывешваюць ручнікі. Гэтыя ж ручнікі, ды яшчэ з калаўротам і лапцямі, упрыгожваюць інтэр'еры беларускіх класаў.

Жыццё хутка ідзе наперад, а нам тэлевізіёншчыкі прапаноўваюць глядзець прыдуманыя імі вячоркі. Фальшывыя ад пачатку да канца. Як і тыя жнеі, якія ў вышываным святочным убранні жнуць жыта. Нейкі фэст з сярпамі, а не цяжкая праца, зрэб'е і пот.

Нам навязваецца экзатычнае ўяўленне пра Беларусь, якое не мае ніякага дачынення ні да ўчарашняга дня, ні да сённяшняга.

Безумоўна, у нас ёсць значныя гістарычныя і культурныя набыткі, але ўся бяда ў тым, што яны ўсё яшчэ не запатрабаваны грамадствам, і найперш на дзяржаўным узроўні.

А чагосьці чакаць ад вёскі і спадзявацца, што яна можа ўключыцца ў працэс нацыянальнага адраджэння, не прыходзіцца. Вёска вымірае. Старыя людзі даношваюць старую вопратку і дажываюць свой век. Іх жыццё так затузала, што ім у прынцыпе ўсё роўна, якая Беларусь сёння і ці будзе яна заўтра. Хвалюе іх штодзённае. Не затрымалі б пенсію, не забралі б ільготы, ды прывезлі б у краму хлеб.

Ды і што тут казаць, калі, напрыклад, у вёсках Баранавіцкага раёна за мінулы год памерла 975 чалавек, а нарадзілася 427. І гэта тыповая карціна для Беларусі адносна вясковага насельніцтва.

Змена ладу на вёсцы — балючы і працяглы працэс, які закране не адно пакаленне. Але няўжо тыя фермеры ці новыя землеўладальнікі з сельскай наменклатуры будуць думаць пра адраджэнне Беларусі?

Дык дзе тут выйсце?

Стагоддзямі Беларусь драмала ў сваёй самабытнасці. Ізаляванасць, векавы ўклад жыцця, кансерватызм хаця і стрымлівалі развіццё нацыі, тым не меней спрыялі захаванню беларускага этнасу.

Сёння час спрасаваны да мінімуму. Яго няма для разважанняў. Я прыходжу да высновы, што адрадзіць Беларусь можна толькі на дзяржаўным узроўні. Іншага шляху проста няма. Без пэўнай дзяржаўнай палітыкі намаганні асобных сацыяльных груп і энтузіястаў так і застануцца нерэалізаванымі ў нацыянальным маштабе.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# GAUDEAMUS

**На сённяшні дзень у рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць 40 дзяржаўных і 19 недзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў, у якіх атрымліваюць адукацыю 196.322 чалавекі. У 1995 годзе на першы курс дзяржаўных ВНУ паступілі 38.534 чалавекі, недзяржаўных — 8.349 чалавек.**

**Лічбы сведчаць, што студэнты ў нашым грамадстве складаюць асобную сацыяльную групу, якая ўяўляе сабой і пэўную палітычную сілу. Чым жыве зараз гэта частка грамадскасці, што іх хвалюе, цікавіць, засмучае і радуе, дзе яны працуюць і дзе адпачываюць? На гэтыя і многія іншыя пытанні, якія датычацца жыцця студэнцтва, вы знойдзеце адказы ў новай «звяздоўскай» рубрыцы Gaudeamus. Спадзяёмся на ваш актыўны ўдзел, шаноўныя чытачы.**

## «БАТАНЫ» — ГЭТА НЕ БАТОНЫ...

«Так, былі людзі ў наш час!» — гэтым неўміручым словам класіка, відаць, самім лёсам наканавана праз стагоддзі быць нязменным папрокам старэйшага пакалення новаму — школьнікам, студэнтам, проста моладзі. Аднак тут, шаноўны чытач, я зусім не маю на ўвазе тыя папрокі, што час ад часу кідаюць паважаныя бацькі сем'яў сваім нашчадкам, якія, на іх погляд, зусім ад рук адбіліся. Хутчэй наадварот. Я кажу пра той папрок студэнтаў 70—80-х гг., якія нават у той складаны ў многіх адносінах час сваімі поглядамі, думкамі, імкненнямі і галоўнае дзеяннямі не давалі «тоўстым» дзядзькам у «кабінетах са скуры» лічыць, што «першыя да апошніх падобныя» і ўвесь час нагадвалі, наганяючы на іх смяротны жах: «Далей дзейнічаць будзем мы!»

Дзе ж вы зараз, студэнты-нефармалы? Дзе гопнікі, панкі з «іракезаліямі» на галовах, бітнікі, рокеры з байкерамі, рэйверы, ройлеры, металісты і хіпі? Студэнтаў-нефармалаў застаецца ўсё менш і менш, а іх былыя «адвязныя» тусоўкі пераходзяць у спадчыну тынэйджэрам, якія, аднак, аддаюць перавагу распіццю піва, загадзя ўсцягнуўшы чаравікі з трактарнымі пратэктарамі, або наогул хіт-хопу на дыскатэках.

Ва ўмовах надыходзячага капіталізму (або сацыялізму, які чамусьці вельмі падобны да свайго старэйшага брата) студэнтам няма калі думаць аб палітыцы — пра хлеб надзённы паклапаціцца трэба. Магчыма таму з праяў сацыяльнага жыцця іх найбольш клапоцяць памер стыпендыі і 50-працэнтная скідка на праезд. Што датычыцца гэтых студэнцкіх «святыняў», дык тут было некалькі спроб актыўных дзеянняў — акцыі «Дзякуй Прэзідэнту за хлеб і малако» і «Наш мільён Прэзідэнту».

Зыходзячы з крытэрыя крыніцы існавання, уся студэнцкая брацiя падзялілася на тры няроўныя часткі.

Першай, самай малалікай і паступова вымiраючай частцы студэнцтва можна даць старую добрую назву — «БАТАНЫ». Менавіта так — «батанікамі» — назвалі вострыя студэнцкія язычкі шчырых фанатаў вучобы, незалежна ад прадмета, якім яны захапляюцца: няхай гэта будзе фізіка ці літаратура. Батаны ўвесь час «грызуць» навуку, нідзе не працуюць, жывуць на сродкі бацькоў і стыпендыю.

Другая частка студэнтаў, амаль палова, падзарабляе выключна за кошт сваёй галавы і інтэлектуальных здольнасцей, неверагоднае мноства якіх, як трапна заўважыў адзін студэнт, «спіць у кожным з нас і з кожным днём усё мацней і мацней». МАЗГАВІКІ, так іх называюць, робяць на заказ чарцяжы, пераклады з замежных моў, пішуць курсавыя і дыпломныя работы, дапамагаюць замежным студэнтам рыхтавацца да залікаў і экзаменаў.

### ТАРЫФЫ:

1. Набор тэксту на камп'ютэры (пішучай машынцы) — старонка 1,5—3 тысячы рублёў.
2. Чарцёж — 2—4 долары.
3. Курсавая работа — 20—50 долараў.
4. Дыпломная работа — 80—150 долараў.

(Кошт залежыць ад прадмета, складанасці, аб'ёму і тэрміну напісання.)

РЫНАЧНІКІ, або чаўнакі, — апошняя, трэцяя група. Большую яе частку складаюць іншагароднія і замежныя студэнты. Іншаземцы звычайна працуюць па-буйному — на аптовым продажы цыгарэт, прадуктаў харчавання, трыкатажу, многія з іх маюць свае ўласныя фірмы. Беларускія студэнты гандлююць, што называецца, у розніцу цыгарэтамі, гарэлкай, разносяць тавары па «камках», некаторыя маюць гандлёвыя месцы на «Дынама», запісваюць на продаж і для пракату відэа-і аўдыёкасеты. Асобна можна выдзеліць студэнтаў, якія заняты ў «Студэнцкім бюро паслуг». Гэта бюро аказвае шэраг бытавых паслуг, пачынаючы ад нагляду за дзецьмі, хворымі і заканчваючы будаўніцтвам і аховай аб'ектаў.

## СТУДЭНТЫ ЖАРТУЮЦЬ

У сталоўцы студэнт падыходзіць да касы:
— Тры сасіскі.
Голас за спінай: «Шыкуеш, гад!»
— І 16 відэльцаў...

* * *

Экзамен. Поўная аўдыторыя студэнтаў, за кафедрай стаіць выкладчык:
— Пытанне на «выдатна». Як мяне завуць?
Цішыня.
— Так я і думаў. Пытанне на «чатыры». Што здаём?
Зноў цішыня.
— Не хочаце «чатыры» — не трэба. Пытанне на «тры». Якога колеру падручнік?
Некалькі секунд цішыня, потым з задніх радоў чыйсьці голас: «Заваліць хоча, гад...»

* * *

Пытанне: «Чаму студэнту нельга жаніцца?»
Адказ: «Калі студэнт будзе сачыць толькі за жонкай — з'явяцца хвасты. Калі толькі за вучобай — з'явяцца рогі. А калі за жонкай і вучобай адразу — адкіне капыты».

**Рубрыку вядзе Сяргей ПРОТАС.**

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 2(21)



| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТРАНСПОРТ** | | | |
| Запчасти к М-412, ГАЗ-53, 2410, Т-25, Т-40 | | Организация | (0222) 25-00-00 |
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА И ДАЧНИКА** | | | |
| Мини-трактор МТЗ-082 | Договорная | Организация | 76-85-85 |
| Мотоблоки МТЗ | Договорная | Организация | 76-85-85 |
| Мотокультиваторы «Крот» с комплектом с/х орудий | Договорная | Организация | 76-85-85 |
| Комплекты с/х орудий к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | 76-85-85 |
| Картофелекопатели к мотоблокам МТЗ | Договорная | Организация | 76-85-85 |
| Плёнка «Спанбонд» для грядок и парников. Срок эксплуатации 3-4 года. | Договорная | Организация | 76-85-85 |
| **ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ОБОРУДОВАНИЕ** | | | |
| Оборудование для АЗС: колонки, пульты управления, запчасти | | ЗАО «Опика» | (01773) 5-49-61, 6-44-21 |
| Монтаж, наладка, запуск АЗС | | ЗАО «Опика» | (01773) 5-49-61, 6-44-21 |
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Италия (Адриатическое побережье экскурсии Рим, Ватикан, Сан-Марино), 12 дней | 245 $ + 230000 руб. + виза | ДАГО—ТУР | 25-85-18 |
| Прага, Карловы Вары, Ческа Липа | 140 $ | ДАГО-ТУР | 25-85-18 |

**ПЕРЕЧЕНЬ РУБРИК для строчечной рекламы**





**«Белпрамбудбанк» з 22 студзеня 1996 года праводзіць выплату дывідэндаў фізічным і юрыдычным асобам па выніках работы за IV квартал 1995 года.**

Для налічэння дывідэндаў запрашаем усіх акцыянераў банка, якія купілі акцыі на сталічным рынку, прайсці да 30 студзеня перарэгістрацыю ў адпаведных установах банка для афармлення права валодання акцыямі.

Акцыянерам, якія маюць ільготы па падаткаабкладанню, неабходна прадаставіць да 20 студзеня адпаведным установам банка дакументы, што пацвярджаюць ільготы.

За атрыманнем дывідэндаў звяртацца ва ўстановы банка, якія праводзілі падпіску на акцыі.

Акцыянерны камерцыйны прамыслова-будаўнічы банк «Белпрамбудбанк» інфармуе кліентаў і акцыянераў аб тым, што цяпер статутны фонд «Белпрамбудбанка» складае 49,9 млрд. рублёў, пры намінальнай вартасці адной простай і прывілеяванай акцыі 800 рублёў.



**Газета «Звязда» — адзін з арганізатараў Міжнароднай выстаўкі**

## «РЭКЛАМНА-ВЫДАВЕЦКІЯ СІСТЭМЫ І АПЕРАТЫЎНАЯ ПАЛІГРАФІЯ»,

**якая будзе праходзіць у Мінску з 16 па 19 студзеня ў выставачным комплексе па праспекце Машэрава, 14.**

*Звяртаем увагу рэкламадаўцаў, што падчас дзейнасці выстаўкі рэкламны аддзел газеты будзе прымаць АБ'ЯВЫ і РЭКЛАМУ ў газету СА ЗНАЧНАЙ СКІДКАЙ.*

**ЗАПРАШАЕМ НА ВЫСТАЎКУ!**

## Курсы абмену наяўных валют

**у камерцыйных банках на 15 студзеня 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 12500 | 14000 | 8300 | 9200 | 2.45 | 2.70 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 12000 | 13500 | 8000 | 9300 | 2.35 | 2.70 | |
| Белзнешэканомбанк | 12000 | 14500 | 8000 | 10100 | 2.25 | 2.50 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 12500 4780 | 13500 4900 | 8400 | 10000 | 2.50 | 3.50 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 12000 | 13500 | 7850 | 8350 | 2.00 | 2.50 | 067 |
| Народны банк | 12200 | 13500 | 8400 | 9300 | 2.35 | 2.65 | 238-610 |
| «Алімп» | 12500 | 14500 | 8200 | 9300 | 2.43 | 3.00 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11850 | 12500 | 8100 | 8300 | 2.40 | 2.55 | 291-646, 067 |
| «ФФФ» | 12100 | 14000 | 8100 | 10000 | 2.40 | 3.00 | |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 8007.80 | | 2.47 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4670 | | 3255.04 | | 100 бел.р. 36.65 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік
** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік
*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах



Страчаныя пашпарт III-ВН № 579260, пасведчанне ўдзельніка ВАВ № 824426 серыі А, ваенны білет № 1566462 — усё на імя **Бортніка Антона Сцяпанавіча,** лічыць несапраўднымі.

КАНТАКТЫ ДЗЕЛАВІТАСЦІ

## Леанід ФІЛІМОНАЎ:

# «ТРЭБА ЗАЙМАЦЦА ТОЙ СПРАВАЙ, ЯКУЮ ДОБРА ВЕДАЕШ І ЎМЕЕШ»

**Размова з генеральным дырэктарам ВП «ЭЛОС» — афіцыйным прадстаўніком у Рэспубліцы Беларусь прадпрыемстваў — вытворцаў электратэхнічнай прадукцыі**

**— СПАЧАТКУ, Леанід Міхайлавіч, калі не сакрэт, што азначае назва вашай фірмы?**

— Не, ніякага сакрэту тут няма. «Элос» атрымалася ад слова «электраосмас», што ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае рух вадкасці праз капіляры ці поры дыяфрагмы пад уздзеяннем знешняга электрычнага поля.

**— Значыць, наколькі можна зразумець, ваша прадпрыемства мае самае прамое дачыненне да электрычнасці?**

— Так. У наш час ні адзін завод, ні адна фабрыка, любая іншая вытворчасць ці арганізацыя, ніхто з нас не можа абысціся без электраэнергіі. Але для таго, каб нармальна працавалі станкі і камп'ютэры, бесперапынна падаваліся святло і цяпло ў заводскія цэхі і жылыя дамы, неабходна мець сучаснае і надзейнае абсталяванне. А дзе яго ўзяць?

**— Скажыце, Леанід Міхайлавіч, ці не гэтым і выклікана стварэнне «Элоса»?**

— Менавіта гэтым. А падштурхнула да такой задумы вось што. Я звыш дваццаці гадоў адпрацаваў інжынерам-электрыкам у народнай гаспадарцы, і ў мяне было ўжо некалькі асабістых вынаходак. Перш чым запусціць іх у вытворчасць, правялі выпрабаванні. Атрымалі «дабро» Міністэрства сельскай гаспадаркі на ўкараненне навінак і пачалі выпускаць гэтыя прыборы. Але, скажу шчыра, справа з іх вырабам ішла цяжкавата: не было памяшканняў, сродкаў, патрэбных матэрыялаў.

Тады мы звярнуліся да адпаведных заводаў з прапановай, магчыма, хто з іх зацікавіцца выпускам нашай прадукцыі. Праўда, некаторыя адклікнуліся, дапамаглі, але заадно слушна заўважылі: «Хлопцы, замежныя фірмы на рух навінкі, запуск яе ў вытворчасць трацяць два-тры гады, а вы адразу хочаце ўжо атрымліваць і прыбытак. Лепш дапамагайце ў збыце нашай прадукцыі».

Мы паслухаліся і з гэтага пачалі новую сваю дзейнасць. Некаторыя грошы зарабілі на продажы сваіх прыбораў, сталі ўкладваць іх у справу, завязваць сувязі з прадпрыемствамі. Цяпер нават смешна, але спачатку тавар сумкамі вазілі, поездам. Ну і паступова вось так працавалі на сваю фірму, умацоўвалі яе.

**— Цікава. Але няўжо прыватнае малое прадпрыемства аказалася больш моцным, жыццяздольным і эфектыўным, чым ранейшыя буйныя дзяржаўныя забеспячэнскія арганізацыі, у вырашэнні такога складанага пытання, якім вы зараз займаецеся?**

— Я хачу яшчэ раз падкрэсліць: усе мы перш-наперш працавалі на фірму, а не асабіста на сябе. Ведалі: калі будзе яна існаваць, то гэта стане выгадна і кожнаму з нас. А для гэтага адначасова з расшырэннем дзейнасці прадпрыемства падбіралі высокакваліфікаваных, кампетэнтных спецыялістаў (іх у нас зараз усяго дзесяткі два), хоць гэта было не так проста і лёгка. Чалавек павінен не толькі ведаць справу, а абавязаны ўліцца ў калектыў, у яго павінна быць з ім псіхалагічная сумяшчальнасць. Так, да нас прыходзілі і звальняліся. Але тыя, хто застаўся, — гэта сапраўдныя, надзейныя людзі. Напрыклад, мой намеснік Юрый Адамавіч Яфімчык чвэрць стагоддзя працаваў забеспячэнцам па электраабсталяванню, ён вопытны, вельмі ініцыятыўны, здольны спецыяліст. Тое ж можна сказаць і пра іншых работнікаў.

А яшчэ ў нашым калектыве існуе такі прынцып: рабі тое, што добра ведаеш і ўмееш. Я, скажам, займаюся тым, чаму мяне вучылі пяць гадоў у інстытуце, што рабіў на вытворчасці ўсё сваё жыццё. А для развіцця і аўтарытэту фірмы выкарыстоўваў усё: знаёмствы, вопыт, веды, сувязі. Але самае галоўнае — мы з самага пачатку працавалі, а не імкнуліся набіць кашалькі, «скалаціць» багацце. У прыватнасці, я не купляў для сябе ні аўтамашын, ні катэджаў, а ўсё ўкладваў у справу, бо ў нас не было «добранькага дзядзькі». Мы ведалі адно: калі не паставім фірму на ногі ў той час, потым, а тым больш цяпер, гэта ўжо не ўдасца. Усяго адзін раз бралі крэдыт, і то толькі пад нерухомасць, на будаўніцтва неабходных памяшканняў.

Цяпер жа, папрацаваўшы на рынку, даведаўшыся, якія электратэхнічныя вырабы на ім патрэбны, мы, маючы нейкія сродкі, ужо гатовы да арганізацыі іх вытворчасці.

**— Але гэта, як кажуць, у перспектыве?**

— Зусім не. Ёсць жа незагружаныя дзяржаўныя прадпрыемствы. І мы да іх звярнуліся. Ды вось яны як палічылі свае затраты, дык проста страшна стала. А нам гавораць: маўляў, вы ж камерцыйная фірма, вам што: купілі — прадалі. А я адказваю: тады рэалізуйце самі па тых цэнах, што накруцілі. Не рэалізуеце. Калі ж мы будзем вырабляць самі, выдаткі ў нас будуць у 5-6 разоў ніжэй, мінімум у тры разы. Інакш нельга ў наш час выжыць, калі мець такія высокія накладныя выдаткі і затраты. Плюс да таго нізкая прадукцыйнасць працы, бясконцыя прастоі на вытворчасці.

**— І што з гэтага вынікае?**

— А тое, што дзяржуласнасць не працуе ні пры капіталізме, ні пры сацыялізме. Я быў на курсах менеджэраў, дзе канадскі прафесар прывёў такі прыклад. Адну авіякампанію пяць разоў перадавалі з прыватных рук у дзяржаўныя. Калі прыватнік выведзе яе на прыбытак, то, стаўшы дзяржаўнай, яна праз 3-4 гады аказваецца стратнай. А ўся прычына ў адносінах людзей да працы, зацікаўленасці іх у рабоце.

**— З якімі сур'ёзнымі і вядомымі прадпрыемствамі вы наладзілі пастаянную сувязь? Якасць іх прадукцыі не выклікае ў спажыўцоў сумненняў у тым, што яе можна смела набываць?**

— У нас пастаянных пастаўшчыкоў шмат. Трымаем сувязь ужо больш чым з дваццаццю прадпрыемствамі. Найбольш іх у Расіі і на Украіне. Напрыклад, вытворчае аб'яднанне «Александрыя». Яго прадукцыя выпускаецца па французскай ліцэнзіі, высокай якасці, еўрапейскага ўзроўню, канкурэнтаздольная. Атрымліваем вырабы таксама з Камянец-Падольскага, Палтавы, Курска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, іншых гарадоў. Прадпрыемствы ўсе вядомыя, асабліва сярод забеспячэнцаў і спажыўцоў.

**— І думаецца, кола вашых партнёраў пастаянна пашыраецца?**

— Безумоўна. Асабліва пасля таго, як наша фірма прыняла ўдзел у выстаўцы электратэхнічнай прадукцыі ў Маскве: пастаўшчыкі адразу пачалі выходзіць на нас. Сёння нельга выжыць і на рэалізацыі толькі аднаго-двух відаў прадукцыі. Той час, калі можна было купіць і тут жа прадаць, мінуў. Аднак пад канкрэтнага спажыўца мы не працуем, а дзейнічаем як забеспячэнская фірма. Як мага больш тавараў павінна быць у нас у наяўнасці: любое прадпрыемства, завод, арганізацыя, звярнуўшыся да нас, павінны ведаць, што знойдуць тут гэтыя вырабы.





**— А які іх асартымент прапаноўвае «Элос»?**

— Шырокі і самы разнастайны. Калі па наміналу, то ён налічвае прыкладна 300—500 назваў. (Самыя асноўныя з іх пералічаны ў рэкламе, якая змешчана ў сённяшнім выпуску газеты «Звязда» «Кірмаш». — **І. Б.**).

**— Для якіх спажыўцоў перш-наперш прызначана ваша прадукцыя? Ці яе можа купіць кожны, хто пажадае?**

— Любому мы згодны прадаць усё, што ён захоча набыць і што мы маем. Галоўнае, каб своечасова была аформлена аплата і нам паступілі грошы. Рэалізуем вырабы прамысловым прадпрыемствам, арганізацыям энергасістэмы, электрасетак. У ліку нашых кліентаў такія вядомыя гіганты беларускай прамысловасці, як МЗХ, МТЗ, заводы «Інтэграл», імя Кірава і інш. Даволі значны працэнт у аб'ёме нашых паставак займаюць калгасы і саўгасы, іншыя прадпрыемствы АПК. Кожны дзень у нас бывае 20—30 пакупнікоў.

**— А ці ідзяце вы насустрач тым спажыўцам, у якіх на дадзены момант няма на рахунку грошай?**

— Вось мы пайшлі насустрач аднаму з мінскіх заводаў, і 40 мільёнаў рублёў ён не можа нам вярнуць ужо тры месяцы. Значыць, мы яго крэдытавалі. Нас жа ніхто не крэдытуе, нават дзяржава. Дык чаму мы павінны займацца дабрачыннасцю і міласэрнасцю? Не ідзём мы і на бартэр — гэты метад заганны і непрыгодны, ён адлюстроўвае перш за ўсё безгаспадарчасць, непаваротлівасць.

**— Вельмі важны і такі фактар: цэны на прапаноўваемыя вамі вырабы вельмі высокія ці, як кажуць, даступныя, памяркоўныя?**

— Я не сказаў бы, што мы хочам абдзерці спажыўцоў і нажыцца на іх. Не. Да заводскай цаны прыплюсоўваем сваю нацэнку, але ў разумных памерах. Калі ж тавары ў нас заляжаліся, рэалізуем па зніжаных цэнах. У той жа час дэфіцытныя вырабы, якія карыстаюцца павышаным попытам, прадаём, зразумела, па больш высокіх цэнах. Адным словам, стараемся трымаць руку на пульсе рынку.

***Але мы не забываем, што праблем пры супрацоўніцтве з намі быць не можа. Наш імідж — аўтарытэт і надзейнасць, ніколі не падводзіць сваіх кліентаў.***

**Гутарыў Іван БРАЛКА.**

*г. Мінск.*

**НА ЗДЫМКАХ: вырабы, якія прапаноўвае і рэалізуе сваім спажыўцам ВП «Элос».**

---

КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

**Герберт Ньютан КЭСАН**

# АКСІЁМЫ БІЗНЕСУ

**(Працяг. Пачатак у нумарах за 27 снежня і 9 студзеня).**

Мэта рэкламы — ператвараць новых пакупнікоў у аўтаматычных пакупнікоў. Ваша прозвішча Скінер, і вы гандлюеце шоўкам. Рэклама ваша павінна вісець так, каб жанчыны самі ішлі ў магазін і аўтаматычна пыталіся «шоўк Скінера».

Павялічваць попыт — значыць падтрымліваць павышэнне цэн.

Расшыраць вытворчасць — значыць змяншаць сабекошт. Кошт вытворчасці кожнай пішучай машынкі пры вытворчасці 100.000 машын будзе меншым, чым пры вытворчасці 10.

Можна прама сказаць, што добрая рэклама абыходзіцца дарма. Яна аплачваецца — і нават больш таго — тым прыбыткам, які яна прыносіць.

Звычайна думаюць, што публіка ведае, чаго хоча.

Якая памылка! Так гаворыцца ў палітычных праграмных прамовах, але на самай справе публіку трэба выхоўваць і весці да яе густаў.

Пасля завяршэння вытворчасці нават найлепшага ў свеце прадукту вам усё-такі прыйдзецца яшчэ прадставіць яго публіцы, зрабіць рэкламу і выставіць у вітрыне для прыцягнення ўвагі.

Бывала, раней ніхто не купляў машын для жніва. Усе фермеры аддавалі перавагу ручным косам. Мак-Кормік, які прыдумаў жняярку, на працягу семнаццаці гадоў прадаваў першыя 100 жняярак.

Наша аксіёма поўнасцю непрымяняльная да новых вынаходак, паколькі даказана, што на зусім новую рэч не бывае ніякага попыту.

Пры павелічэнні попыту можа быць два спосабы ўтрымаць цэны. Першы спосаб — знішчыць частку тавару, другі — бязмежна павялічваць патрэбу ў ім публікі.

Калі рынак перагружаны бананамі, то здараецца, што частка грузу выкідваюць за борт карабля.

Такі спосаб утрымання цэн — неразумны...

Разумны ж спосаб заключаецца ў тым, каб зрабіць аб'яву і знайсці новыя і правільныя спосабы павелічэння гандлю.

Многія фабрыканты скардзяцца на перавытворчасць. Яны памыляюцца. Няма і ніколі не можа быць перавытворчасці. Тысячы людзей чакаюць тавару, толькі і марачы аб набыцці яго, але само існаванне яго ім невядома.

Значыць, адсутнічае ўменне пусціць у продаж тавар, а зусім не перавытворчасць. Фабрыкант не зразумеў, што рынак павінен збалансаваць, ураўнаважыць яго вытворчасць якраз гэтак жа, як бухгалтар — рахункі ў сваіх бухгалтарскіх кнігах.

Найбольш ідэальнае становішча — гэта запрэгчы цугам прапанову і попыт, прычым попыт павінен быць наперадзе.

## ПЯТАЯ АКСІЁМА

**● Пакупніком з'яўляецца той, хто даражыць якім-небудзь прадметам больш, чым грашыма, якіх ён каштуе**

Аксіёма гэта паслужыць нам для стварэння «Майстэрства прадаваць».

Мы выведзем ясныя палажэнні аб ролі пакупніка... І мы дакажам, што продаж залежыць ад патрэбнасці пакупніка.

Да таго ж гэта аксіёма пакажа нам абсалютную неабходнасць рэкламы.

Рэклама павялічвае попыт, расшырае рынкі, і гандаль дзякуючы ёй развіваецца на ўсім зямным шары.

«Майстэрства прадаваць» і рэклама займаюцца стварэннем новых патрэбнасцей.

Вынаходнік, стварыўшы новае, перадае сваю вынаходку фабрыканту для яе ажыццяўлення.

Задача прадаўца — прымусіць публіку жадаць гэта новае.

Закон чалавечай прыроды прымушае нас аддаваць перавагу старым звычкам. Сапраўды, значна лягчэй паўтараць завучаныя жэсты, чым рабіць зусім новыя.

Шмат фабрыкантаў страцілі сваё багацце, не жадаючы прызнаваць гэтай ісціны. Яны верылі ў тое, што дастаткова прапанаваць кліенту навінку, і ён яе абавязкова купіць. Якая памылка! Першы жэст такога кліента — адвярнуцца ад навінкі, і толькі добрая рэклама і вопытны прадавец пераканаюць яго ў адваротным. Патрэбнасць у чым-небудзь павінна культывавацца.

«Майстэрства прадаваць» заключаецца ў перакананні людзей, што пакупка для іх будзе выгаднай.

Прадаваць — не значыць толькі перадаваць праз прылавак тавар, пра які пытаецца спажывец. Перакананне — неабходная прыналежнасць акта продажу.

Ісціна ў тым (і ісціна вельмі жорсткая), што большасць нашых так званых прадаўцоў і прыказчыкаў не валодаюць патрэбнымі здольнасцямі і зусім не ведаюць свайго рамяства. Яны толькі карыстаюцца паслугамі сваіх вачэй, рук, ног і... толькі.

Калі вы дакладна ведаеце, чаго хочаце, то яны яшчэ могуць ласкава прапанаваць вам патрабуемае. Але калі вы не зусім паінфармаваны аб патрабуемым вамі прадмеце, то пасля погляду з папрокам у ваш бок яны неахвотна зрушацца з месца, шкадуючы, што не могуць вам сказаць: «Якога ліха! Вы яшчэ не вырашылі канчаткова, а ідзяце сюды!»

Разарыліся многія з тых, хто думаў, што «Майстэрства прадаваць» можна замяніць велічынёй і прыгажосцю памяшкання. І іх вопыт у гэтым напрамку закончыўся няўдачай. Няма нічога больш важнага ў магазіне, чым спрыт прадаўца.

Жанчыны складаюць галоўны кантынгент у магазінах. Гэта яны купляюць амаль усё як для сябе і сваіх дзяцей, так і для гаспадаркі. Гэта жонка амаль заўсёды дае парады мужу, што і як купіць.

Самы галоўны абавязак прадаўца — пераконваць жанчын і кіраваць імі ў іх пакупках і патрэбнасцях. Мала жанчын, якія ведаюць, што ім сапраўды трэба, калі яны ўваходзяць у магазін. Яны заходзяць звычайна ў яго, каб глядзець і параўноўваць. І бываюць рады прыняць хоць якое-небудзь канчатковае рашэнне. Яны любяць, калі іх угаворваюць і дэманструюць перад імі розніцу ў таварах. Трэба прызнаць, што ў справе пакупак яны больш умелыя, больш здольныя, чым мужчыны.

Кожнай жанчыне трэба што-небудзь «асаблівае». Прапануйце даме кавалак самай звычайнай матэрыі за звычайную цану — і вы не сустрэнеце з яе боку ніякай цікавасці. Але запэцкайце край той жа матэрыі крыху чарнілам, павесьце цану і прапануйце яе затым пакупніцы як брак, што прадаецца па небывала выгаднай цане, і яна накінецца на яе. Такое жаночае мысленне; трэба ведаць і прыстасоўвацца да яго.

Сапраўдны прадавец параўноўвае свайго кліента як бы з парламентам. Спачатку ён паказвае тавар; у галаве кліента адбываецца работа, падобная на парламенцкае галасаванне, якое дало 30 галасоў за пакупку і 70 — супраць. Прадавец зацікаўлівае ў тавары, тлумачачы, якім незвычайным шляхам магазіну ўдалося запасціся падобным таварам... і другое галасаванне дае 40 працэнтаў галасоў за і 60 — супраць. Тады прадавец мімаходзь заўважае, што такая вось вядомая асоба купіла падобную матэрыю і што трэба мець добры густ, каб яе дастойна ацаніць. Адбываецца трэцяе галасаванне, і галасы дзеляцца пароўну — 50 за і 50 — супраць. Тут ён прапануе ўступіць тавар на якіх-небудзь льготных умовах, паколькі яму вядома, што з моманту пераходу тавару ў рукі пакупніка галасаванне на карысць тавару дасць яшчэ лішніх 10 галасоў.

**(Працяг будзе).**

**Пётр СКАРЖЭЎСКІ, дырэктар НЦБ Інтэрпола:**

# «МАХЛЯРЫ РОЗНАГА ГАТУНКУ НЕАДНОЙЧЫ СПРАБАВАЛІ ЎЦЯГНУЦЬ БЕЛАРУСЬ У СУМНІЎНЫЯ ЗДЗЕЛКІ»

Нейкая нафтавая кампанія з Даніі праз азербайджанскую асацыяцыю садзейнічання ААН выйшла на наш урад з заманлівай прапановай. У паўночнаеўрапейскіх магнатаў нібыта засталіся пэўныя буйныя сумы, і яны, успомніўшы пра рэкамендацыі Сусветнага банка, вырашылі запусціць іх у гаспадарку якой-небудзь краіны, што стала на шлях развіцця. Гэты крок гарантуе 4-працэнтны прыбытак ад укладзеных у справу грошай, які дзеліцца паміж ініцыятарам здзелкі і ўдзельнікам у прапорцыі 3:1. Аднак спатрэбіліся ўрадавыя гарантыі Беларусі. Каб не прадстаўляць іх камусьці невядомаму, НЦБ Інтэрпола даручылі праверыць надзейнасць магчымага партнёра. Высветлілася, што ніякай нафтафірмы няма, а яе назвай з'яўляецца прозвішча дацкага хітруна 1948 года нараджэння. Атрымаўшы беларускія гарантыі, ён здолеў бы пакласці ў кішэню крэдыты розных банкаў, а мы засталіся б з носам.

Вось толькі адзіная старонка з дзейнасці айчынных інтэрполаўцаў. Што ж яшчэ хаваецца пад шыльдай знакамітай міжнароднай арганізацыі крымінальнай паліцыі? Аб гэтым размова з дырэктарам НЦБ палкоўнікам Пятром Скаржэўскім.

**— Нялішне будзе нагадаць, калі наша рэспубліка далучылася да суполкі Інтэрпола?**

— Прыняцце Беларусі адбылося 4 кастрычніка 1993 года на 62-й сесіі Генеральнай Асамблеі на востраве Аруба ў Карыбскім моры. Дарэчы, зараз у Інтэрпол уваходзяць 174 краіны-члены, а з дзяржаў СНД да яго пакуль не далучыліся толькі Таджыкістан, Кыргызстан і Туркменістан.

**— Якія асноўныя мэты і задачы стаяць перад крымінальнай паліцыяй?**

— Першыя спробы стварэння такой арганізацыі рабіліся яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. Штуршком паслужыў навукова-тэхнічны прагрэс, узнікненне новых сродкаў перамяшчэння, якімі карысталіся і злачынцы, каб збегчы ад правасуддзя за межы радзімы. Аднак увасобіць ідэю ў жыццё ўдалося толькі пасля ваеннай калатнечы, у 1923 годзе, калі на кангрэсе ў Вене ўзнікла Міжнародная камісія крымінальнай паліцыі з добрым дасье на парушальнікаў закона, у тым ліку на рускіх рэвалюцыянераў-тэрарыстаў.

Мэта Інтэрпола — забяспечыць шырокае ўзаемадзеянне нацыянальных органаў паліцыі ў справе папярэджання і барацьбы з крымінальнай злачыннасцю. Яго дзейнасць накіравана ў асноўным супраць найбольш небяспечных міжнародных злачынстваў — распаўсюджвання наркотыкаў, падробкі каштоўных папер, тэрарызму, крадзяжу аўтамабіляў і інш. Інтэрпол нікому не абавязаны дапамагаць па справах ваеннага, палітычнага, расавага характару. Менавіта па гэтай прычыне сацкраіны і не жадалі ўступаць у арганізацыю. У прыватнасці СССР рашыўся ўступіць толькі ў 1989 годзе.

**— Цікава даведацца аб сённяшняй структуры Інтэрпола. Хто ўзначальвае вядомае ведамства?**

— Вышэйшым органам Інтэрпола з'яўляецца Генеральная асамблея, якая склікаецца праз год на розных кантынентах. Сёлета яна будзе працаваць у Стамбуле. Асамблея выбірае выканаўчы камітэт і прэзідэнта. Вось ужо два гады на чале Інтэрпола швед Б'ёрн Эрыксан.

У арганізацыі пастаянна дзейнічае Генеральны сакратарыят са штаб-кватэрай у Ліёне. У яго структуры мноства аддзелаў — ад крымінальных да навуковых і фондаў. Там разам з аператыўнай работай і ўтрыманнем электроннага банка даных рыхтуюцца канвенцыі па асабліва небяспечных відах злачынстваў, аналітычна-інфармацыйныя бюлетэні. Зараз кіруе ўсім гэтым англічанін Раймонд Кэндэл.

**— Ну што ж, завочнае знаёмства з Інтэрполам адбылося. Пагаворым аб пачатковых кроках беларускага Нацыянальнага цэнтральнага бюро (НЦБ). Як яны, дарэчы, даліся наванароджанаму?**

— Няпроста. Асноўную працу мы пачалі толькі з красавіка 1994 года. Да гэтага займаліся падборам кадраў. Як складана сфарміраваць бюро ў Беларусі, мяркуйце самі: патрэбны вопытныя міліцыянеры-універсалы — з не менш чым 10-гадовым стажам, валоданнем замежнай мовай (добра, калі адной з афіцыйных у Інтэрполе — англійскай, французскай, іспанскай ці арабскай), уменнем працаваць на камп'ютэры. Такіх цяжка знайсці.

Неўзабаве наладзілі-такі тры аддзелы — крымінальных злачынстваў і міжнароднага вышуку, аналітыкі і апрацоўкі інфармацыі, тэхнічнага забеспячэння. З цэнтра ў Ліёне нам бясплатна падключылі сучасную высокаэфектыўную электронную сістэму сувязі з банкам даных Інтэрпола, якая каштуе 50 тысяч долараў. Паціху ствараем і ўласнае дасье.

**— Нечага, вядома, вы дамагліся, нягледзячы на вялікі і складаны спектр спраў, ці не так?**

— Сапраўды, работай закіданы па вушы. Сучасны крымінальны свет асвойвае новыя віды злачынстваў, прапануючы міліцыі хітрамудрыя галаваломкі. Трэба зазначыць, што найвялікшую шкоду Беларусі махляры наносяць у эканамічнай, крэдытна-фінансавай і банкаўскай сферах. Узяць хаця б выпадак, што меў месца два гады таму, калі атрыманыя намі звесткі дапамаглі арыштаваць двух злачынцаў, якія, трымаючы на руках несапраўдныя вэксалі, «патрашылі» банкі Еўропы. У выніку яны маглі б нанесці нашай дзяржаве страты на 550 мільёнаў долараў.

А аб загружанасці калектыву НЦБ гавораць такія лічбы: на працягу 1995 года мы атрымалі звыш 12 тысяч запытаў і карэспандэнцый больш як з 80 краін, сярод якіх нават такія экзатычныя, як Багамы, Гібралтар, Шры-Ланка, а таксама Пакістан, Сірыя, Бразілія, Аўстралія.

**— Няблага. Скажыце, якія злачынствы турбуюць больш за ўсё?**

— Безумоўна, аўтакрадзяжы. Яны сталі адной з прыбытковых галін мафіёзнага бізнесу. Транснацыянальныя групоўкі працуюць па прынцыпу «ланцужка»: нехта крадзе машыны, нехта перабівае нумары, нехта перафарбоўвае карпусы, нехта перапрадае. Праблема аўтазладзеяў злабадзённая для Еўропы, і па ёй напэўна прымуць нейкае рашэнне на пасяджэнні кантынентальнага пададдзела Інтэрпола ў маі сёлетняга года ў Варшаве. Мы ж летась знайшлі 167 угнаных аўтамабіляў (18 з іх выкралі ў беларусаў), што на 72 болей, чым у 1994 годзе.

**— Як справы ў дэтэктываў з вышукам людзей?**

— Летась Інтэрпол адшукваў 163 чалавек, 77 з якіх зніклі без вестак. Са свайго боку прынялі ўдзел і знайшлі 21 злачынцу (11 з іх адшуквала МУС Беларусі), 7 прапаўшых без вестак. Дарэчы, аднаго рабаўніка-суайчынніка выявілі ажно ў Французскім замежным легіёне.

Першыя студзеньскія дні паказваюць, што не спынілі дзейнасць махляры. НЦБ ужо ліквідавала дзесяткі ілжэ-СП, кожнае з якіх нанесла мільённыя страты ў доларах. Ёсць інфармацыя, што па рэспубліцы «гуляюць» фальшывыя дакументы Нацбанкаў Нігерыі, Казахстана, Грузіі, Латвіі. Нядаўна да нас наведаліся чэшскія калегі, якія затрымалі ў сябе чатырох перавозчыкаў партыі урану-235, сярод якіх былі і беларусы.

**— Немагчыма пакінуць па-за ўвагай і два скандалы мінулага года, вакол якіх узняла шум прэса. Па-першае, «справа Кебіча»...**

— Магу толькі заявіць, што НЦБ Інтэрпола і прадстаўнікі Скотланд-Ярда правялі сумесную праверку па факту падпісання былым прэм'ер-міністрам Беларусі вэксаляў на суму 1,2 мільярда долараў. Ёсць канкрэтныя вынікі, але яны будуць абнародаваны толькі тады, калі справа дойдзе да суда.

**— Па-другое, продаж беларускіх дзяцей за мяжу.**

— Так, падобны факт меў месца, але інфармацыя, што з'явілася ў газетах, не зусім сапраўдная. Зараз следства па гэтай справе перададзена ў КДБ, таму ўвесь матэрыял у калег, каменціраваць яго пажадана ім.

**Інтэрв'ю правёў Сяргей ХРЫПАЧ, прэс-цэнтр МУС.**

# Больш як трэць канфіскаваных летась на тэрыторыі Беларусі наркотыкаў трапілі да нас з-за мяжы

**Злачыннасць была і застаецца адным з самых небяспечных сімптомаў у любым грамадстве. Але калі забойства, крадзеж, рабаванне ўчыняюць асобы, нашпігаваныя наркотыкамі, — гэта павінна стаць сапраўдным сігналам бяды. Неабходна ўлічваць і тое, што незаконны абарот наркатычных сродкаў і сыравіны павялічваецца год ад году. Ці захоўвалася такая тэндэнцыя летась? З гэтага пытання і пачалася наша гутарка з начальнікам аддзела па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў Міністэрства ўнутраных спраў Анатолем Бурым.**

— Статыстычныя даныя за 1995 год сведчаць, што праблема незаконнага абароту наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і злоўжыванне імі у Беларусі маюць устойлівую тэндэнцыю росту, павышаецца так званы ўзровень наркатызацыі насельніцтва, які за апошнія 5 гадоў павялічыўся амаль у 2,5 раза. Органамі ўнутраных спраў у 1995 годзе выяўлена 1550 злачынстваў, звязаных з наркаманіяй. Гэта на 7 працэнтаў больш у параўнанні з 1994-м. Што канкрэтна гавораць лічбы? Калі ў 1994 годзе з незаконнага абароту былі канфіскаваны 963 кг наркотыкаў і сыравіны для іх прыгатавання, то ў 1995 годзе — больш як 1,5 тоны. Асаблівасцю гэтай статыстыкі з'яўляецца тое, што ўсё больш хуткімі тэмпамі расце колькасць гатовых да ўжывання моцных наркотыкаў, сыравіна для прыгатавання якіх у нас у рэспубліцы не расце, такіх як опій і гераін.

**— Які працэнт канфіскаваных з незаконнага абароту наркотыкаў прыходзіць з-за мяжы?**

— Па нашых ацэнках, больш як 30 працэнтаў канфіскуемых з незаконнага абароту наркотыкаў паступае з-за мяжы. У 1994—1995 гадах за парушэнне наркатычнага заканадаўства затрымана больш як 100 грамадзян з 18 краін свету. У тым ліку з Афганістана, Беніна, Грэцыі, Германіі, Індыі, Пакістана, Тайланда, Уганды.

Трэба яшчэ адзначыць, што наркабізнес набывае ў Беларусі ўсё больш арганізаваны характар. У 2 разы стала больш злачынстваў, звязаных са збытам наркотыкаў.

З аналізу найбольш распаўсюджаных злачынстваў па лініі арганізаванай злачыннасці з'яўляецца вымаганне. У 1995 годзе ў Мінску з 70 працэнтаў затрыманых за вымаганне, — гэта асобы, якія ўжываюць наркотыкі. Яшчэ больш сур'ёзная карціна назіраецца сярод вярхушкі злачыннага свету. З 12 крымінальных «аўтарытэтаў» свету 8 з'яўляюцца заўзятымі наркаманамі.

**— Якія меры прымаюцца ў барацьбе з наркатычнай заразай?**

— Перш за ўсё у нас адстае заканадаўчая база. Яна не адаптавана да міжнародных нормаў і прававых нормаў бліжэйшых краін. Напрыклад, на Украіне на падставе рэкамендацыі ААН прыняты асобны закон. У нас жа праект закона толькі распрацаваны. Цяпер ён знаходзіцца ў Кабінеце Міністраў для прадстаўлення ў Вярхоўны Савет. Другое. У мінулым годзе створана міжведамасная камісія. Акрамя заканадаўчай базы і міжведамаснай камісіі неабходна спецыялізацыя і расшырэнне падраздзяленняў у барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў хоць бы на якім-небудзь міжрэгіянальным узроўні. Павінна быць створана спецыяльнае падраздзяленне, якое працавала б па недапушчэнню ўвозу наркотыкаў, а таксама змагалася з іх незаконным абаротам.

Гадоў 10—15 праваахоўныя органы стараліся перш за ўсё схапіць і пасадзіць за краты пастаўшчыкоў. Потым зразумелі, што гэта няправільна. Самае галоўнае — перакрыць каналы, прыкрыць вытворчасць. Такім чынам мы захаваем здароўе грамадства, зменшым крымінагенную сітуацыю.

**Між тым, усё большая колькасць наркотыкаў трапляе ў рукі нашых суграмадзян. Дастаткова ўвечары зазірнуць у бар або рэстаран, і без цяжкасці сярод цыгарэтнага дыму адчуеш пах канапель ці іншага дурману. І калі на гэтым шляху не паставіць надзейны заслон, то хутка нас возьме у палон дурман «белай смерці».**

**Аляксандр ПУГАЧ, Прэс-служба Міністэрства ўнутраных спраў**

*ЗДАРЭННІ*

## НЕ ХАПАЛА ТОЛЬКІ Ў ВЁСЦЫ БОМБЫ

Цудам не дайшла справа да бяды ў вёсцы Буйнавічы Лельчыцкага раёна. Пакідаючы ваенны палігон, расійскія армейцы хоць і запэўнілі мясцовае начальства актам з пячаткай, што на займаемай імі тэрыторыі «мін няма», мясцовыя мужыкі ўсё ж раскапалі... авіябомбу.

З думкай, што ўсякая рэч у гаспадарцы спатрэбіцца, нехта прыцягнуў яе ў вёску. І невядома, чым бы ўсё закончылася, калі б своечасова не паведамілі сапёрам. За вёскай прагучаў выбух такой сілы, што ў некаторых дамах павыпадалі шыбы.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

## МЯШКІ З САЛОМКАЙ

Тое, што выраб і збыт наркатычных рэчываў у апошні час актывізаваўся, можна меркаваць па частых фактах затрымання грамадзян з мяшкамі, туга напакаванымі гэтым смяротным дурманам. Так, у Магілёве, у двары аднаго з мікрараёнаў, быў затрыманы раней судзімы мясцовы жыхар з 50 кг макавай саломкі, а ў Мінскім раёне ў двух грамадзян без пэўнага месца жыхарства і роду заняткаў канфіскавана 60 кг гэтага наркотыку.

## УТАПІЛА ДЗІЦЯ

Яшчэ 27 снежня мінулага года ў адной з вёсак Пухавіцкага раёна непрацуючая 20-гадовая мясцовая жыхарка нарадзіла дзіця, але ў гэты ж дзень яго ў яе не стала. У знаёмых узніклі розныя падазрэнні. І вось 12 студзеня труп хлопчыка быў знойдзены ў туалеце. Падазраваемая затрымана. Вядзецца следства.

## ПЛАНКА АПУСЦІЛАСЯ

У мінулыя выхадныя кожнае пятае сур'ёзнае злачынства ўчынялася непаўналетнімі. Узроставая планка ўдзельнікаў рознага роду злачынстваў апусцілася, відаць, да рэкорднага ўзроўню. Так, у Полацкі РАУС звярнулася пенсіянерка, жыхарка вёскі Троеніца, з заявай, што ўдзень прама на вуліцы суседняй вёскі Салонікі яе збілі трое невядомых і забралі 150 тыс. рублёў. Міліцыі ўдалося выйсці на след падразраваемых. Імі аказаліся 2 дзяўчынкі 13 і 12 гадоў і 9-гадовы хлопчык.

## СМЕРЦЬ У ГАРАЖЫ

У гэтым годзе штодзённа ў дзяжурную частку МУС паступаюць паведамленні аб выяўленні ў гаражах з прыметамі атручэння чадным газам трупаў іх гаспадароў. Прычыны таго, што загінуўшыя на доўгі час затрымаліся ў салоне сваіх аўтамашын розныя, але агульным упушчэннем з'яўляецца тое, што імі не захоўваліся меры тэхнікі бяспекі. Вось і ў Барысаве ў мінулыя выхадныя ў 21.30 ва ўласным гаражы ў салоне аўтамабіля «Альфа-Рамэо» быў знойдзены труп 24-гадовага гаспадара. Прычына смерці — атручэнне выхлапнымі газамі.

**Васіль КУРЛОВІЧ, прэс-цэнтр МУС**

## ПАКРЫЎДЗІЛІ В'ЕТНАМЦАЎ

Напад на дзвюх в'етнамак, студэнтак Беларускага універсітэта транспарту Нгуен Тхі Хоа і Лыонг Тхі Ань, быў учынены а дзесятай гадзіне раніцы, калі з інтэрната яны накіроўваліся гандляваць на цэнтральны рынак Гомеля. Двое маладых хлопцаў прымянілі супраць іх газавы балончык і адлупцавалі, пасля чаго схапілі іхнія сумкі і зніклі. А ў сумках знаходзілася восем мільёнаў «зайцоў», 29 скураных куртак, 38 электронных гадзіннікаў і шэсць пар скураных пальчатак. На след рабаўнікоў пакуль натрапіць міліцыі не ўдалося.

Бяда напаткала і студэнта дзяржаўнага універсітэта в'етнамца Чан Дык Чонга. Прычапіўшыся, ноччу яму праламаў чэрап нідзе не працуючы лайдак С. У., якога ўдалося затрымаць. А Чан зараз знаходзіцца ў бальніцы.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ АПЕРАТЫЎНА-СЛУЖБОВАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ПАГРАНІЧНЫХ ВОЙСКАЎ ЗА МІНУЛЫ ГОД

На калегіі Пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь, якая прайшла 12 студзеня, падведзены вынікі іх аператыўна-службовай дзейнасці ў 1995 годзе.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Галоўнага ўпраўлення Пагранічных войскаў, летась беларускімі пагранічнікамі было затрымана звыш 4600 парушальнікаў мяжы, прычым кожны трэці з іх з'яўляўся прадстаўніком краіны Афра-Азіяцкага рэгіёна, а з амаль паўтары тысячы прадстаўнікоў афра-азіяцкіх краін каля 300 чалавек рабілі спробы нелегальна перасячы дзяржаўную мяжу рэспублікі двойчы, амаль 30 чалавек — тройчы. Больш за тры тысячы парушальнікаў мяжы было затрымана толькі на беларуска-літоўскай і беларуска-латвійскай межах.

Акрамя таго, за ўвесь мінулы год пагранічнікамі затрымана розных кантрабандных грузаў на суму, якая перавышае 22 мільярды рублёў. Канфіскаваны 133 адзінкі агнястрэльнай зброі і 191 абраз.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

*У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

## ПАСАЖЫРАЎ ЦЯПЕР СТРАХУЮЦЬ АБАВЯЗКОВА

Кабінет Міністраў у мэтах забеспячэння абароны грамадзян ад няшчасных выпадкаў да прыняцця адпаведнага заканадаўчага акта нашай рэспублікі прыняў пастанову аб абавязковым страхаванні пасажыраў.

Устанавіць, гаворыцца ў прынятай пастанове, што абавязковаму страхаванню ад няшчасных выпадкаў падлягаюць усе пасажыры, перавозімыя паветраным, чыгуначным, водным і аўтамабільным транспартам Рэспублікі Беларусь незалежна ад формаў уласнасці. Застрахаванымі па абавязковаму страхаванню ад няшчасных выпадкаў з'яўляюцца грамадзяне нашай рэспублікі, асобы без грамадзянства і замежныя грамадзяне, якія набылі білет на сродкі паветранага, чыгуначнага, воднага, аўтамабільнага транспарту Рэспублікі Беларусь на час паездкі (палёту) ці знаходжання на вакзале, у порце, на станцыі, прыстані.

Пасажыры лічацца застрахаванымі з моманту аб'яўлення пасадкі на паветраны, рачны транспарт, у поезд, аўтобус ці іншы транспартны сродак да моманту пакідання вакзала, порта, станцыі, прыстані прызначэння. Транзітныя пасажыры лічацца застрахаванымі ў перыяд перасадкі, калі яны знаходзяцца на тэрыторыі вакзала, станцыі, прыстані.

Абавязковае страхаванне не распаўсюджваецца на пасажыраў усіх відаў транспарту міжнародных зносінаў (за выключэннем тэрыторыі дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў і краін Балтыі), усіх відаў транспарту прыгарадных зносінаў, унутрыгарадскога аўтамабільнага і электрычнага транспарту, а таксама метро, унутранага воднага транспарту на прагулачных і экскурсійных лініях.

Страхавой падзеяй з'яўляецца траўма, атрыманая пасажырам, ці яго смерць у выніку няшчаснага выпадку, які здарыўся з ім у перыяд знаходжання ў дарозе. Няшчасным з'яўляецца выпадак, пры якім здароўю пасажыра, без яго жадання, наносіцца ўрон у выніку нечаканага ўздзеяння на яго цела знешніх сіл.

Аб кожным няшчасным выпадку, які здарыўся на транспарце з застрахаваным пасажырам, транспартная арганізацыя абавязана скласці акт і ўручыць яго пасажыру ці нашчадкам.

Страхавая сума па абавязковаму страхаванню пасажыраў складае 100 мінімальных заработных плат.

Страхавы ўзнос па абавязковаму страхаванню пасажыраў у памеры 2 працэнтаў ад кошту білета ўключаецца ў кошт білета (пуцёўкі, рахунку на аплату пры калектыўных паездках) і спаганяецца з пасажыра пры продажы білета транспартнай арганізацыяй.

Пасажыры, якія карыстаюцца правам бясплатнага праезду ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, падлягаюць абавязковаму страхаванню без выплаты імі страхавых узносаў.

Застрахаванаму пасажыру пры поўнай страце ім агульнай працаздольнасці ў выніку няшчаснага выпадку на транспарце страхоўшчыкам выплачваецца страхавая сума ў памеры 100 мінімальных заработных плат. Пры частковай страце агульнай працаздольнасці выплачваецца частка ўказанай сумы, што адпавядае працэнту страчанай працаздольнасці.

У выпадку гібелі застрахаванага пасажыра страхавая сума ў памеры 100 мінімальных заработных плат выплачваецца яго нашчадкам.

У прынятай пастанове ўказана, што ажыццяўленне абавязковага страхавання ўскладзена на Беларускую дзяржаўную страхавую арганізацыю.

Ад страхавых узносаў, якія паступілі на рахунак страхавой арганізацыі, праводзяцца наступныя адлічэнні:

на выплату страхавых сум і ў рэзерв у памеры 40 працэнтаў;

у фонд папераджальных (прэвентыўных) мерапрыемстваў для фінансавання мерапрыемстваў па павышэнню бяспекі перавозкі пасажыраў у памеры 50 працэнтаў;

на расходы страхавой арганізацыі ў памеры 10 працэнтаў.

Парадак узаемаразлікаў па абавязковаму страхаванню пасажыраў паміж страхоўшчыкам і транспартнымі арганізацыямі, якія ажыццяўляюць перавозку пасажыраў, вызначаецца страхоўшчыкам па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў.

Прынятай пастановай таксама зацверджаны пералік мерапрыемстваў па павышэнню бяспекі перавозкі пасажыраў, фінансуемых за кошт сродкаў, адлічаемых у фонд папераджальных (прэвентыўных) мерапрыемстваў ад страхавых узносаў па абавязковаму страхаванню пасажыраў, згодна з дадаткам.

Даручана Міністэрству фінансаў устанавіць парадак уліку Міністэрствам транспарту і камунікацый і Дзяржаўным камітэтам па авіяцыі нашай рэспублікі сродкаў, што пералічваюцца страхоўшчыкам на папераджальныя мерапрыемствы.

Прызнана страціўшай сілу Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 ліпеня 1993 г. № 470 «Аб абавязковым страхаванні пасажыраў».

Гэта пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 1 студзеня 1996 г.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

## «МЫ ПРАЦУЕМ НА ІМІДЖ БЕЛАРУСІ»

На сённяшні дзень 24 замежныя дзяржавы накіравалі сваіх дыпламатаў для работы ў рэспубліцы. Забеспячэннем іх дзейнасці ў Мінску занята Галоўнае ўпраўленне па абслугоўванню дыпламатычнага корпуса і афіцыйных дэлегацый, якое ўваходзіць у Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Аб гэтай службе карэспандэнту БЕЛТА расказаў першы намеснік яе начальніка Алег Новікаў.

— Наша структура створана ў адпаведнасці з Указам прэзідэнта «Аб арганізацыі абслугоўвання дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў замежных дзяржаў у Рэспубліцы Беларусь». Мы дэталёва вывучылі практыку такой работы вядучых краін свету. І вось цяпер маем «Дыпсервіс», які цесна супрацоўнічае з Міністэрствам замежных спраў рэспублікі, іншымі дзяржаўнымі ўстановамі. Знаходжанне «Дыпсервіса» ў распараджэнні прэзідэнцкай структуры пацвярджае пазіцыю кіраўніка дзяржавы ў імкненні строга захоўваць міжнародныя абавязацельствы, прынятыя Беларуссю адносна знаходжання ў рэспубліцы дыппрадстаўніцтваў.

Асноўная задача ўпраўлення заключаецца ў выкананні Венскай канвенцыі. У прыватнасці, у забеспячэнні цывілізаванага знаходжання замежных дыпламатаў і іх сем'яў у нашай краіне.

Акрамя арганізацыі быту, мы дапамагаем ім бліжэй пазнаёміцца з Беларуссю. Спецыяльна для супрацоўнікаў пасольстваў намі нядаўна праведзена паездка па Брэсцкай вобласці. Затым мы азнаёмілі жадаючых з гістарычнымі мясцінамі Міншчыны. Сумесна з міністэрствамі культуры, адукацыі і навукі падрыхтавалі сустрэчу супрацоўнікаў пасольстваў, якія займаюцца гуманітарным супрацоўніцтвам. Такія непасрэдныя зносіны дапамагаюць дыпламатам лепш выконваць іх прафесіянальныя абавязкі. На чарзе — стварэнне Клуба консульскіх работнікаў, дзе ўжо назначаны сустрэчы з кіраўнікамі мытні і органаў унутраных спраў краіны.

У абавязкі «Дыпсервіса» ўваходзіць таксама садзейнічанне замежным прадстаўніцтвам у размяшчэнні іх офісаў. Гэта задача не простая, і магчымасці ведамства вымушаюць жадаць лепшага. Аднак, — падкрэсліў Алег Новікаў, — мы старанна працуем над паступіўшымі заяўкамі і за кошт міграцыі ўстаноў унутры сталіцы прадастаўляем памяшканні пад рэзідэнцыі. Нядаўна справілі наваселлі 8 дыппрадстаўніцтваў і прыраўнаваных да іх міжнародных арганізацый.

У распараджэнні «Дыпсервіса» знаходзяцца таксама ўрадавыя комплексы і рэзідэнцыі. Напрыклад, шырока вядомыя «Драздцы» атрымалі статус афіцыйнага месцаразмяшчэння кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў. Сваю базу ведамства прадастаўляе для правядзення мерапрыемстваў перш за ўсё дзяржаўнага ўзроўню. Але не толькі. Па заяўках буйных фірмаў і кампаній «Дыпсервіс» прадастаўляе шырокі спектр сваіх паслуг. Скажам, на правядзенне сімпозіумаў ці канферэнцый з тэхнічным, культурным і бытавым забеспячэннем.

Мы зацікаўлены ў распрацоўцы ўласнага фірменнага стылю, — сказаў далей Алег Новікаў. — Што азначае нічым не адрозніваца па ўзроўню абслугоўвання ад сваіх калег у іншых дзяржавах Еўропы і свету. А гэта цэлая індустрыя, якая ўключае ў сябе комплексныя клопаты аб высокага рангу кліентах: забеспячэнне іх бяспекі, медыцынскага абслугоўвання, культурных праграм і адпачынку...

— Беларусь, — заявіў Алег Новікаў, — імкнецца быць для іншаземцаў краінай, дзе яны адчувалі б сябе гэтак жа камфортна, як дома.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## КАЛІ ВЫРАШЫЦЦА ЛЁС БОЕПРЫПАСАЎ?

Аб гэтым часам чытаеш не без хвалявання: то дзеці знайшлі нічыйныя боепрыпасы, то зваршчык разбіраў у металаломе авіябомбу, якая невядома як апынулася там.

Вядома, што не беларуская армія стварала вялікія запасы ўзбраенняў. Яны дасталіся ў спадчыну ад Савецкай Арміі. Кіраўніцтву Узброеных Сіл і па сённяшні дзень прыходзіцца ламаць галаву над тым, як забяспечыць надзейнае і бяспечнае захоўванне боепрыпасаў рознага віду, як утылізаваць боепрыпасы з закончанымі тэрмінамі захоўвання. Не выпадкова менавіта гэтыя праблемы разглядаліся на адным з апошніх пасяджэнняў калегіі Міністэрства абароны.

Усю складанасць сітуацыі можна праілюстраваць на прыкладзе базы захоўвання авіяцыйных сродкаў паражэння (АСП), якая знаходзіцца пад Віцебскам. Як вядома, Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь у маі мінулага года адзначыла шэраг сур'ёзных недахопаў у арганізацыі захоўвання АСП. На сённяшні дзень многія з іх ліквідаваны. За перыяд з мая па кастрычнік пабудавана 18 поўнасцю абсталяваных пляцовак для захоўвання боепрыпасаў агульнай ёмістасцю 1000 вагонаў, устаноўлены маланкаадвод, выкапаны проціпажарныя вадаёмы. Аб аб'ёме выкананых работ гавораць хоць бы такія лічбы — распрацавана 179.600 кубаметраў грунту, укладзена 14.100 пліт. У выніку тэхнічная тэрыторыя базы прыведзена ў адпаведнасць з патрабаваннямі нарматыўных дакументаў. Завяршыць абвалоўку сховішчаў не далі магчымасці халады, гэтыя работы прадугледжаны ў плане на вясенне-летні перыяд.

Паводле слоў палкоўніка Мікалая Чыжыка, намесніка камандуючага ВПС Беларусі па ўзбраенню, праблема вырашаецца, аднак востра адбіваецца недахват сродкаў. У Кабінет Міністраў рэспублікі накіраваны план мерапрыемстваў па забеспячэнню выбухова- і пажарабяспечнасці арсеналаў, баз, складоў боепрыпасаў да 2001 года і разлік-абгрунтаванне выдзялення грашовых сродкаў на гэтыя мэты. Ці ўдасца іх адшукаць і вырашыць праблему да XXI стагоддзя — пытанне адкрытае. Пакуль жа ў складаных умовах недастатковага фінансавання ваеннае ведамства вымушана адшукваць сродкі для абсталявання аб'ектаў, устройства ахоўнай сігналізацыі, думаць аб утылізацыі ўстарэлых відаў боепрыпасаў, якія маюць закончаныя тэрміны захоўвання.

**Генадзь ХУДЗІНСКІ, прэс-служба Міністэрства абароны.**

## *ПАЭТУ І ПІСЬМЕННІКУ ЯНКУ СІПАКОВУ — ШЭСЦЬДЗЕСЯТ*

*Сёлетні год вельмі ўжо «ўрадлівы» на юбілеі многіх вядомых (і таленавітых!) творцаў сучаснай беларускай літаратуры. «Звязда» як адзіная штодзённая беларускамоўная нацыянальная газета будзе, вядома ж, шчыра вітаць іх, жадаць плёну і творчага натхнення, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.*

*Аднак рэдакцыя вырашыла так: каб не збіцца на звычайныя газетныя штампы, каб раз за разам не заказваць заздароўныя панегірыкі, паспрабаваць пашукаць калі не новыя, дык, скажам так, нетрадыцыйныя формы віншавання. А першым — зусім выпадкова! — трапіў пад гэты «пошук» вядомы паэт, пісьменнік і перакладчык Янка (Іван Данілавіч) Сіпакоў.*

*Мы звярнуліся да двух майстроў слова — народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна і журналіста Уладзіміра Барысенкі, які, дарэчы, не толькі зямляк паэта, а і сам апошнім часам вельмі актыўна і таленавіта праявіў сябе і ў паэзіі, — з просьбай павіншаваць Янку Сіпакова вершаваным радком. І вось што з гэтага атрымалася:*

**Рыгор БАРАДУЛІН**

...А неаб'езджаны Пегас  
Каля Зубрэвічаў падкову  
Згубіў,  
І ў рукі Сіпакову  
Патрапіла падкова ў час.  
І Янка ў творчыя пакуты  
Пайшоў, як зубр,  
Але падкуты.



**Уладзімір БАРЫСЕНКА**

Шмат цудоўных людзей на радзіме,  
Дзе нам сонечны дождж шчодра свеціць.  
Дзень лірычнага выраю леціць —  
весну, восень, і лета, і зіму,  
Позірк хат пад крылом цішыні.  
Так, твой вырай — твой дзень, а не вечар,  
ён — славянскіх балад тваіх веча,  
станаўленне людской вышыні.

*15 студзеня 1996 г.*

***Праявіў ініцыятыву і прапанаваў павітаць Майстра слова, а таксама далучаецца да віншаванняў — Анатоль МЯСНІКОЎ.***

*У СВЕЦЕ*

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

■ **ПАМОЧНІК ПРЭЗІДЭНТА РАСІІ ЗАНЯЎ ПАСАДУ КІРАЎНІКА ЯГО АДМІНІСТРАЦЫІ**

Кіраўніком адміністрацыі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі з учарашняга дня ўказам Барыса Ельцына назначаны Мікалай Ягораў, які раней займаў пасаду памочніка прэзідэнта. Сяргей Філатаў, якога замяніў Ягораў, вызвалены ад пасады ў сувязі з пераходам на іншую працу.

■ **РАДУЕВА ЧАКАЮЦЬ ПАД ГРОЗНЫМ**

Пасля доўгага перапынку ў Грозным зноў пачалі страляць з гармат і мінамётаў, чуліся моцныя залпы ракетных установак. Масіраванаму артабстрэлу падвяргаліся раёны на паўднёвым усходзе ад Грознага, куды, як мяркуецца, імкнуцца выйсці тэрарысты з групы Салмана Радуева. Ноччу самалёты перыядычна скідвалі туды асвятляльныя ракеты. Учора з раніцы пастамі федэральных войскаў і атрадамі мясцовай міліцыі блакіравана цэнтральная частка чачэнскай сталіцы. У Грозным на ўсіх напрамках грузавымі аўтамабілямі і іншымі сродкамі перакрыты масты праз раку Сунжу. У небе, на ўсход ад Грознага, увесь час з'яўляюцца баявыя верталёты, чуюцца гукі выбухаў.

■ **СНІД ПАГРАЖАЕ З АФРЫКІ**

Сумны рэкорд устаноўлены ў мінулым годзе ў Зімбабве. За 9 першых месяцаў года ў гэтай афрыканскай краіне было зарэгістравана 11 тысяч новых выпадкаў захворвання на СНІД. За ўвесь 1994 год захварэўшых на «чуму XX стагоддзя» было крыху больш як 10 тысяч. Найбольш схільнай да смертаноснага захворвання групай насельніцтва з'яўляюцца людзі ва ўзросце 30—39 гадоў. Больш міласэрным СНІД аказаўся да падлеткаў ад 16,5 да 19 гадоў, сярод якіх усяго 159 захварэўшых.

■ **ПРАБЛЕМЫ СА СТЫХІЯЙ УЗНІКЛІ І Ў КІТАІ**

Да 40 градусаў ніжэй нуля апусцілася тэмпература паветра ў шэрагу раёнаў Кітая ў выніку самых моцных за апошнія пяць гадоў паўночна-заходніх ураганных вятроў з моцнымі снегападамі. Вялікі раён, які з'яўляецца важнай базай жывёлагадоўлі, ператвораны ў краіну снегу і льду. У многіх раёнах таўшчыня снежнага покрыва складае каля 40 сантыметраў. У выніку актывізацыі стыхіі на суткі была перапынена чыгуначная сувязь і закрыта дарога паміж Кітаем і Казахстанам.

■ **«ДЖЭКСАН» І «ГАРБАЧОЎ» РАБУЮЦЬ БАНКІ**

Двое злачынцаў, узброеных аўтаматамі, абрабілі аддзяленне ашчаднай касы ў адным з гарадоў Заходняй Германіі. Здабыча налётчыкаў склала 170 тысяч марак. Гангстэрам удалося ўцячы з месца злачынства. Больш за 20 сведак дзёрзкага нападу не змаглі апісаць прыбыўшым паліцэйскім нават знешняга выгляду налётчыкаў. Справа ў тым, што адзін з іх схаваў твар пад маскай з выявай былога прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова. А ў дачыненні да маскі яго напарніка меркаванні сведак разышліся. Ён быў у масцы ці то вядомага амерыканскага спевака Майкла Джэксана, ці то звычайнай малпы. Як паведаміў прадстаўнік паліцыі зямлі Геса, няўлоўныя рабаўнікі «Гарбачоў» і «Джэксан» даўно ўжо вядомы праваахоўным органам. З кастрычніка 1994 года яны ўчынілі ўжо падобныя налёты на банкі, прыхапіўшы з сабой з іх сейфаў 1 мільён марак.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

1996 год сустрэты, а вы яшчэ не вырашылі, дзе будзеце сустракаць 2000 год? Тады адказваем: вам не ўдасца правесці навагоднюю ноч у вядомым лонданскім гатэлі «Савой» — усе 202 нумары ўжо забраніраваны там яшчэ з 1990 года. Не прыме ў ноч на 2000 год і нью-йоркскі рэстаран «Рэйнбоу рум»: прыём заявак там таксама спынены, хоць навагодняе задавальненне каштуе там якіясьці 1000 долараў «з носа». Нічога не выйдзе і з 181-метровай «Касмічнай іглой» у Сіэтле — усю яе арандавалі для сустрэчы 2000 года 15 мясцовых сямействаў з іх сябрамі, якіх усяго разам будзе 900 чалавек. Калі вы паспяшаецеся, то засталося яшчэ некалькі свабодных месцаў сярод 17 тысяч нумароў у парку «Дзіснейуорлд» у фларыдскім Арландо.

**ІТАР—ТАСС**

*Не звярнуўшы ўвагу на «зімовую прахалоду» з ранішняй тэмпературай у 16—18 градусаў цяпла, тысячы жыхарак Каракаса надзелі ў гэты дзень міні-спадніцы ў знак пратэсту супраць дэкрэта новага губернатара штата Лара Арланда Фернандэса, які забараняе працуючым у дзяржаўных установах жанчынам штата вельмі высока агаляць свае ногі.*

*«Дэкрэт — зневажанне жаночага высакародства і спроба пазбавіць жанчын гэтага штата быць прыгожымі і падабацца акружаючым», — заявіла адна з удзельніц акцыі Яміле Радрыгес, даўжыня спадніцы якой дэманстравала крайнюю ступень салідарнасці з жанчынамі і стварала невялікі, але пастаянны збой руху на вуліцы Рыо-дэ-Жанейра ў венесуэльскай сталіцы.*

**«Труд»**

Шаснаццаць унукаў і дваццаць чатыры праўнукі запрасіла на свой стагадовы юбілей Яўгенія Фёдараўна Навасёлава з горада Ірбіта. На вяку доўгажыхаркі тры рэвалюцыі і дзве вайны, якія пакінулі значны след у яе лёсе. Нягледзячы на такія гады, Яўгенія Фёдараўна захавала дзіўную цвярозасць розуму. Шмат гадоў яна адпрацавала ў калгасе. Не сядзіць без справы і зараз, абыходзіцца без чужой дапамогі. Юбілярша, па яе словах, спадзяецца ўбачыць яшчэ больш светлыя часы.

**ЕАН**

# АНАСТАСІЯ

Дзякуй Богу, што такія небаракі, як Насця Аўхімовіч, пакідаюць наша грамадства. Хоць і някепска даглядалі ў Доме дзіцяці № 1 у Мінску, за мяжой, у Ірландыі, ёй будзе не горш. Тут ад яе адмовілася нават родная маці, там будуць выхоўваць і лячыць чужыя людзі. Мы пісалі раней пра лёс дзяўчынкі, што апынулася яна сярод пакінутых дзяцей толькі за тое, што прыйшла ў гэты свет не такой, якой яе чакалі. Тады мы выказвалі спадзяванне, што свет яшчэ не ачарсцвеў і ў жыцці Насці сустрэнуцца людзі, якія дапамогуць ёй трывала стаць на ножкі і радавацца жыццю. І нашае прадбачанне спраўдзілася. Прайшло крыху больш года, як знайшліся людзі, якія захацелі стаць апекунамі. Мы не можам пакуль назваць імёны членаў гэтай ірландскай сям'і, але пазней, даведаўшыся, паведамім. Пастараемся сачыць за далейшым жыццём Анастасіі і расказваць пра яе чытачамі.

Аднак дакладна вядома, што шчаслівы паварот у лёсе дзяўчынкі зусім не выпадковы — ён адбыўся дзякуючы руплівай, добрай жанчыне, імя якой з вялікай пашанай называюць у многіх краінах Еўропы — Эдзі Роўч. Шмат прыкладаў дапамогі нашай краіне ад арганізацыі «Падтрымка дзецям Беларусі» можна было б прывесці, каб паказаць, на што здольны чалавек, калі ставіць перад сабою мэту дабрачыннасці. Але асабліва ўражвае ў Эдзі Роўч тое, што стала яна і яе арганізацыя апекавацца хворымі дзецьмі, спрыяць іхняму аздараўленню ў сваёй і іншых краінах. Не так даўно мы пісалі пра дзяўчынку Аленку Мелікян — таксама сірату-выхаванку Дома дзіцяці № 1, якую ўжо гадуе заможная ірландская сям'я.

Разам з Насцяй у далёкі шлях паляцеў і хлопчык Аляксей Шмарлоўскі. Ірландскія медыкі не лічаць яго безнадзейным, як у нас, і будуць рабіць аперацыю. А можа, і не адну. І гэта таксама шчаслівы выпадак, падораны клапатлівай Эдзі. Мінскі Дом дзіцяці стаў асаблівай зонай увагі Ірландыі, і гэта дае надзею, што і іншыя пакінутыя хлопчыкі і дзяўчынкі атрымаюць шанц на сваё шчасце.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

**НА ЗДЫМКАХ:** ***вось такімі пакідаюць Беларусь Насця Аўхімовіч і Аляксей Шмарлоўскі.***

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).







## БЕСПРАЦОЎЕ ЗНОЎ ЖАНОЧАГА РОДУ

**«Беспрацоўе — доля багатай дзяржавы». Не помню дакладна, хто аўтар гэтага афарызма, але цяжка ўсумніцца ў яго справядлівасці. Што ж да Беларусі, то наша рэспубліка, не паспеўшы набыць статус квітнеючай дзяржавы, вельмі хутка зацяжарыла гэтым дзецішчам.**

Цяпер Дзяржаўнай службай занятасці ў рэспубліцы зарэгістравана 131 тысяча беспрацоўных. Дапамогу па беспрацоўю з іх атрымліваюць 68 з паловай тысяч чалавек. Яе максімальны памер складае сёння дзесьці каля 120 тысяч рублёў. Як людзі жывуць на гэтыя грошы, кормяць сем'і, — аднаму Богу вядома.

На апошняй прэс-канферэнцыі намеснік міністра працы Рэспублікі Беларусь, кіраўнік Дзяржаўнай службы занятасці Дзмітрый Іванавіч Ванееў намаляваў найбольш тыповы партрэт сучаснага беспрацоўнага. Ім аказалася маладая дзяўчына ва ўзросце ад 18 да 25 гадоў, якая мае сярэднюю адукацыю. Наогул, як паказваюць сацыялагічныя даследаванні, больш чым 50 працэнтаў беспрацоўных у нас — гэта моладзь ва ўзросце да 30 гадоў. Сустракаюцца сярод маладых людзей і выпускнікі прафтэхвучылішчаў, вышэйшых навучальных устаноў. Хоць доля асоб з вышэйшай адукацыяй сярод колькасці беспрацоўных сёння прыметна знізілася і складае 10,3 працэнта. Для параўнання: 1 студзеня 1993 года лічба гэта дасягала 40 працэнтаў.

Жанчын сярод беспрацоўных па-ранейшаму больш, чым мужчын. Але з кожным годам суадносіны тут мяняюцца. Калі на 1 студзеня 1993 года ў рэспубліцы было 83 працэнты беспрацоўных жанчын і 17 працэнтаў — мужчын, то, паводле апошніх даных, лічбы гэтыя склалі ў нас 63 і 37 працэнтаў адпаведна. Слабы пол знаходзіць прымяненне сваім сілам.

Расце сярод беспрацоўных і колькасць перасяленцаў з іншых рэгіёнаў. 1 студзеня 1995 года яны складалі 29 працэнтаў. Паводле апошніх даных — 32,8 працэнта.

Дзяржаўная служба занятасці, закліканая дапамагаць беспрацоўным, рыхтуе метадычныя рэкамендацыі па іх абучэнню на спецыяльных курсах, павышае кваліфікацыю сваіх кліентаў, займаецца пытаннямі працаўладкавання. Для слаба абароненых катэгорый людзей (моладзь, інваліды) распрацоўваюцца асобныя праграмы занятасці. Некаторым інспектарам службы занятасці часам прыходзіцца прымаць па 70—90 чалавек у дзень.

На жаль, жаданне працаўладкавацца для многіх беспрацоўных (54 працэнты ад агульнай колькасці) абмяжоўваецца толькі надзеямі на Дзяржаўную службу занятасці. Усяго 10 працэнтаў беспрацоўных гатовы атрымаць ад дзяржавы грашовыя субсідыі і адкрыць сваю справу. Большасць людзей па-ранейшаму марыць аб спадачку з блакітным беражком і не ў сілах пераадолець сацыялістычны сіндром, калі хтосьці, а не сам чалавек павінен турбавацца аб сваёй будучыні.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## ЗЛАЧЫННАЕ СЭРЦА П'ЯНІЦЫ-МАЦІ

**Калі Марынку прывезлі ў морг, урачы судова-медыцынскай экспертызы ўстанавілі, што смерць дзяўчынкі наступіла ад разрыву печані і ўнутранага крывавіцця. Маці Марынкі, дваццаціпяцігадовая Таццяна Чайкова, выслухаўшы заключэнне ўрачоў, ніяк не адрэагавала на гэта. І не таму, што ўжо, заламаўшы рукі, наплакалася ад непапраўнай страты, а па іншай прычыне: была п'яная.**

**Адбылася ж трагедыя наступным чынам.**

Трэцяга студзеня Таццяна прыйшла з Марынкай да сваёй сяброўкі і равесніцы Марыны. Жанчыны пачалі працягваць сустрэчу Новага года з бутэлькамі на стале, а іхнія дочкі — Марына і Саша забаўляліся з лялькамі. Пілі, як кажуць, колькі ўвалецца, ад чаго ўжо і лыка не вязалі. Пра дзяцей успомнілі тады, калі Марынка папрасіла есці. Маці падала ёй штосьці і загадала класціся спаць.

— Не хачу яшчэ, — запярэчыла дзяўчынка. Ачмурэлая ад выпітага Таццяна ўдарыла яе па мяккім месцы.

— Я не хачу спаць, мамачка, — са слязьмі на вачах прыціснулася да яе каленяў дачушка. — Хачу гуляць з Сашай.

— Я каму сказала! — раўнула маці і так агрэла дзяўчынку, што тая ўпала на падлогу і заенчыла.

— Супакойся! — ашчэрылася маці і зноў накінулася на дачушку з кулакамі і нагамі...

Яна біла яе да таго часу, пакуль тая не змоўкла, а потым паклала яе спаць. Калі ж у другой палове ночы сама легла побач з ёй, адчула: цела дзяўчынкі халоднае. У ачмурэлым ад гарэлкі мозгу крутнулася думка: трэба выклікаць «хуткую дапамогу». І пакуль тая ехала, сяброўкі дамовіліся гаварыць: дзяўчынка памерла раптоўна і невядома ад чаго.

На месца здарэння тэрмінова выехалі дзве аператыўна-следчыя групы ўпраўлення крымінальнага вышуку УУС аблвыканкома і другога аддзялення міліцыі Чыгуначнага РАУС горада Гомеля пад кіраўніцтвам Фёдара Бакланава і Пятра Малашчанкі. Вось што расказаў нашаму карэспандэнту Фёдар Мікалаевіч:

— Сяброўкі, у якіх няма мужоў, спачатку ні ў чым не прызнаваліся, бо з іх галоў яшчэ не выветрыўся п'яны чад. Ён прыйшоў у Таццяны толькі пасля абеду 4 студзеня. І тады яна аб усім успомніла. Адна з яе суседак па кватэры заявіла, што калі б не яна, дзяўчынка даўно б аддала канцы, бо маці не даглядала яе, не карміла. Марынку больш шкадавалі і любілі суседзі, чым Таццяна.

Шчыра кажучы, цяжка паверыць у гэта, бо ўсе мы ведаем, якое чулае, спагадлівае і добрае мацярынскае сэрца. А калі яно ўтапілася ў гарэлцы?

Марыньцы нядаўна споўнілася два з паловай гады. Да трох яна не дажыла. Да трох дажыць ёй не дала яе родная маці...

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## А ВЯРНУЛІСЯ СТРЫЖАНЫМІ

Цяжка сказаць, на што разлічваў семнаццацігадовы навучэнец Гомельскага прафтэхвучылішча № 22 А. С., калі ў адзінаццатай гадзіне ночы, узброіўшыся двума манціроўкамі, пачаў трушчыць сігналізацыю аднаго з магазінаў па вуліцы Палескай, каб залезці туды. Яго тут жа і ўцікамі міліцыянеры. Гэтак жа, як і нідзе не працуючых А. В. і Л. Ф., якія ўжо ўзламалі дзверы магазіна па вуліцы Якуба Коласа і напаўнялі свае сумкі дарагім таварам.

Не ўдалося пажывіцца і жыхару Жлобіна А. Р., які разам з раней судзімымі М. Ш. і В. Д. лез у магазін па вуліцы Карла Маркса. На іх руках шчоўкнулі наручнікі, калі жаданы момант быў так блізка. Цяжка было развітвацца з нарабаваным дабром у магазіне вёскі Маяк Гомельскага раёна жыхарам абласнога цэнтра і вёскі Старыя Дзятлавічы, непрацуючым С. С., В. Б. і З. М., якіх прамой дарогай міліцыя адправіла ў следчы ізалятар.

Што і казаць, нядрэнным аказўся «ўлоў» у міліцыянераў, якія праводзілі аперацыю «Магазін». А зладзеі, як гавораць у народзе, ішлі па вoўну, а вярнуліся стрыжанымі.

**Уладзімір ГРЫГОР'ЕЎ.**

СУСЕДЗІ

# ДВАЦЦАЦЬ ДЗЁН ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

**КРАІНА БЕЛАГА АРЛА — Польшча — адарыла мяне дваццаццю дзівоснымі днямі. Менавіта такі тэрмін устаноўлены для слухачоў Усходняй летняй школы, якая расчыняе дзверы першага ліпеня для маладых навукоўцаў (перш-наперш — гісторыкаў, этнолагаў, сацыёлагаў, культуролагаў) з цэлай Еўропы. Але ж перавага аддаецца «ўсходняму вектару». Летась сабралася група даследчыкаў з Украіны, Беларусі, Літвы, Расіі, Балгарыі, Грузіі, Швецыі, Швейцарыі і Галандыі.**

Сесія летняй школы ахоплівае тры тыдні і ўключае цыкл аўтарскіх лекцый польскіх і іншаземных прафесараў. Лекцыі перамяжоўваюцца навуковымі аб'ездамі, культурнымі імпрэзамі ды ўласнай працай студыйцаў у бібліятэках, архівах, інстытутах.

Леташнюю (чацвёртую) сесію пачаў прафесар Оксфардскага універсітэта Норман Дэвіс. У сваім выступленні «Усходняя Еўропа. Міф ці рэальнасць?» буйны вучоны-гісторык абвяргаў трывалы палітычны падзел Еўропы на Заходнюю (так бы мовіць, — «вышэйшага гатунку») і Усходнюю (адпаведна — ніжэйшай якасці). Апошнюю, паводле прафесара, дагэтуль разглядаюць праз «ігольнае вушка» камунізму і бачаць толькі дэфармацыі (антынормы) агульнага сацыяльна-палітычнага быцця, не зважаючы на асобнасць (гістарычную і культурную) балтаў ці палякаў, украінцаў ці расейцаў. Напрыканцы сваёй лекцыі Норман Дэвіс прапанаваў уласныя прынцыпы для вызначэння «ўсходняга краю», у межах якога, дарэчы, апынулася таксама... Ірландыя.

Не маю намеру канспектыўна падаваць змест усіх лекцый, якія тычыліся праблем блізкай і даўняй гісторыі Сярэдне-Усходняй Еўропы, яе культуры і перспектыў наперадзе. Адзначу толькі істотную асаблівасць, а менавіта тып прафесіяналізму, прафесара Сарбонскага універсітэта Д. Бавуа ці прафесара Гарвардскага універсітэта Р. Шпарлюка, прафесара Лодзьскага універсітэта Е. Маліноўскага ці згаданага ужо Н. Дэвіса. Іх «тып» — гэта ўзровень майстар-класа — і навуковы, і выкладчыцкі. Амаль кожны з лектараў з'яўляўся перад аўдыторыяй са сваёй апошняй кнігай ці са «свежым» артыкулам. Ды і наогул, гэтая прафесура вызначаецца, калі можна так сказаць, чысцінёй твару. Дакладней кажучы — звычайнай інтэлігентнасцю. Інтэлігентнасцю думкі, разважанняў, мовы (не адной, між іншым).



Лазенкі. Помнік Ф. Шапэну

Знакамітыя навукоўцы-выкладчыкі, вядома, гонар, «інтэлект» Усходняй летняй школы. А хто яе няўрымслівае «сэрца»? Безумоўна, пан Ян Маліцкі са сваімі маладымі памочнікамі. Іх увагі, іх добразычлівых усмешак хапіла ўсім гасцям мінулай ужо IV сесіі. Штогод менавіта яны выносяць пакуты арганізатараў, наладжваючы складаную працу свайго семінара.

Усходняя летняя школа — гэта не толькі цікавае навуковае асяроддзе з новымі сяброўствамі ды павышэннем уласнай кваліфікацыі. Гэта яшчэ і захапляючае наваколле: універсітэт, Варшава, яе ваколіцы.

Дом Усходняй летняй школы — Варшаўскі універсітэт — існуе сто семдзесят дзевяць гадоў. За гэтай лічбай — не толькі фармальны каляндар навучальных сезонаў, а свае трывалыя традыцыі, свой дух, свая гісторыя. Універсітэт зачынялі (скасоўвалі права на навучанне) у XIX стагоддзі расейскія ўлады, у XX яго руйнавалі немцы. Аднак жыццё тут не скончылася, навука не знікла.

...Урачыста-запаволена кожную раніцу гасцінна расчыняецца ажурная брама галоўнага ўваходу. І ў горад-універсітэт можа трапіць проста з Кракаўскага прадмесця, што ў цэнтры Варшавы, любы прахожы. Насустрач яму ў канцы цяністай алеі адкрыецца цэнтральны будынак універсітэта — бібліятэка. Дарэчы, калі закарціць папрацаваць у каталогах, то ніякіх таму перашкод няма: заходзь і ўтаймоўвай свой даследчыцкі інтарэс без усякага на тое «вышэйшага дазволу».

За бібліятэкай паўстае палац Казіміроўскі — галоўная адміністрацыйная рэзідэнцыя Варшаўскага універсітэта. Тут ладзяць урачыстыя прыёмы і пасяджэнні навуковай Рады, тэарэтычныя канферэнцыі і заняткі для слухачоў Усходняй летняй школы. Абсталяваныя мяккімі крэсламі аўдыторыі, прасторныя холы, багата ўбраныя залы палаца — гэта не проста вонкавы бляск добра дагледжаных памяшканняў. Гэта — сімвал універсітэцкай важкасці, манументальнасці, непахіснасці, што забяспечваецца трывалай пераемнасцю сучаснасці ад мінуўшчыны. Жывая гісторыя універсітэта — і ў імянных аўдыторыях, якія атрымалі «прозвішчы» славутых навукоўцаў, і ў галерэі парадных жывапісных партрэтаў рэктараў усіх (спрыяльных і не вельмі) часоў і, вядома, — у абліччах сённяшніх прафесараў.

...Кожныя 15 хвілін гадзіннік на фасадзе бібліятэкі Варшаўскага універсітэта адзываецца меладычным звонам. Ён асядае на густую засень дрэў, што абступаюць будынкі і злучаюцца ў маленькія скверы ды ўтульныя алеі. Тут можна пачытаць, памаўчаць з сябрамі, паспрачацца з калегамі ці проста раствэрыцца ва ўласных думках.

Наогул, Варшава ў маіх адчуваннях — перш за ўсё паркі, сады. Вольныя, шырока разгалінаваныя парасоны дрэў выратоўвалі ад спякоты не толькі прахожых, нават цэлыя вуліцы, кварталы, ды і ўвесь горад. Нягледзячы на штодзённую спякоту, шчодра цвілі ліпы, кветкі легкадумна стракацелі сваімі фарбамі, зелянела сакавітая трава. Увесь гэты шчыльназялёны каскад, створаны цёплымі рукамі садоўнікаў ды прыбіральшчыкаў, — свайго роду рэліквія для варшавян і звычайнае дзіва для нас, завітаўшых на колькі дзён. Дарэчы, з моманту майго апошняга наведвання у 1991 г. польская сталіца заўважна змянілася. Папрыгажэла. Чыстыя вуліцы, прамытыя вітрыны, акуратныя газоны ды кветкі на тратуарах і балконах, у пад'ездах, на падаконніках, у вітрынах крам. Букеты — у кошыках гандляроў і ў руках дам. Свежыя, яркія, пахучыя — жывыя.

І, вядома, жанчыны — прыгожыя, вольныя, ганарлівыя, ледзь-ледзь нядбайныя, але выпеставаныя касметолагамі, цырульнікамі, куцюр'е. На кожным кроку przepraszam і dziekuje. Нават калі кантралёр просіць прад'явіць ваш праязны білет.

Канешне, і ў чароўным свеце натыкаешся на кантрасты. Варшава — не выключэнне. Тут таксама сустракаеш бамжоў ды цыганоў. Але яны выглядаюць звычайнымі прафесіяналамі сваёй справы, банальнымі сацыяльнымі маскамі. А маску, як павялося, кожны сам сабе выбірае. Мы, слухачы летняй школы, выбіралі прагулкі ды вандроўкі.

...Са Старога горада бярэ пачатак урачыста-дэкаратыўнае Кракаўскае прадмесце, якое незаўважна пераходзіць у мітуслівы Новы Свет, а затым — у чынныя Алеі Уяздоўскія і, нарэшце, імкліва збягае ўніз утульнай вулачкай Бельведэрскай якраз да нашага прытулку — універсітэцкай гасцініцы. Вельмі лёгка прызвычаіцца да гэтай трасы, бо яна — галоўная гарадская, сталічная, гістарычная «вертыкаль». Уздоўж яе месціцца Палац Радзівілаў (рэзідэнцыя прэзідэнта), Палац Сташыца (рэзідэнцыя польскай Акадэміі навук), музей Нарадовы, Замак каралеўскі ды яшчэ амбасады, касцёлы і незабыўныя Лазенкі.

Архітэктурна-паркавы ансамбль «Лазенкі» паўстаў у XVIII стагоддзі з лёгкай рукі караля-мецэната Станіслава-Аўгуста Панятоўскага. Сярод водных каналаў, стрыжаных газонаў, палацаў у шчодрай зеляніне блукаюць жыхары ды наведвальнікі Варшавы. Міма іх у самазахапленні праходзяць паўліны, ганарліва дэманструючы свае знакамітыя шлейфы-хвасты.

Каля цэнтральнага ўваходу ў «Лазенкі» — помнік Ф. Шапэну. Кожную нядзелю тут збіраюцца людзі, каб паслухаць фартэпіянны канцэрт пад небам блакітным ці хмарным. Надвор'е ніякага значэння не мае, калі гукі мазуркі ці паланеза рассыпаюцца з-пад пальцаў піяніста па ўсім наваколлі. Парывістыя, імпульсіўныя, яны знітоўваюцца ў нябачныя рамантычна-музычныя карункі.

Адгалоскі польскага краю. Адгалоскі польскай гісторыі нясцішным рэхам плывуць над той зямлёй: перагукаюцца, вальсуюць, перашэптваюцца ў пакоях старадаўніх замкаў, паркавых алеях. Гэтае блукаючае рэха Часу ахутвае не толькі Варшаву, але і яе ваколіцы.



Віляноўскі палац

Архітэктурныя помнікі мінулага шчыльна акружаюць польскую сталіцу: Вілянаў, Нябораў, Радзевіцэ, Валевіцэ, Млохаў... Не ўкрытыя музейным «цюлем», гэтыя будынкі гасцінна расчынены для творцаў, навукоўцаў, турыстаў, прахожых, дзяцей. Адпачыць, правесці некалькі гадзін на свежым паветры прыязджаюць сюды маладыя сем'і, бабулі з унукамі, кампаніі падлеткаў. І пры тым — ніякай мітусні, тлуму, смецця. Толькі спакой, цішыня ды пранізлівае адчуванне Сувязі часоў і лёсаў. Мудрыя людзі здолелі ўратаваць гэты дзіўны свет ад варварства, невуцтва, бязлітасных амбіцый захопнікаў усіх масцей. Гісторыя і культура — падмурак любой дзяржавы, любой нацыі. О, як неспадзявана шчымліва адбіваецца тое ўсведамленне ў сэрцы беларуса, калі ён гасцюе ў Польшчы! Пасля сваіх айчынных руінаў, пасыпаных попелам уласнаручнага духоўнага самазнішчэння, хоць у суседняй краіне са сціплым гонарам адзначыць знаёмыя прозвішчы Чартарыйскіх сярод колішніх уладальнікаў Вілянаўскага палаца ці Міхала Казімежа Агінскага (а пазней — Міхала Радзівіла), што набылі і ўпрыгожылі Нябораўскі палац у XVIII стагоддзі. Мінулае Польшчы пазбаўлена строгай недатыкальнасці, кулуарнай замкнёнасці. Здалося, што менавіта гісторыя, і перш за ўсё свая, польская, — тут маці навук. Яна служыць моцным сродкам патрыятычнага выхавання. І не толькі ў падручніках, не толькі ў фактах і лічбах, а проста ў штодзённай рэчаіснасці, проста адвечным быццём палацаў, паркаў, касцёлаў, Белага Арла.

Кто ты естэсь? — Поляк малы.

Які знак твой? — Ожел Бялы.

З гэтых радкоў пачынаюцца першыя чытанкі, першыя экскурсіі, першае дзіцячае самаўсведамленне.

...Некалькі беглых замалёвак, штрыхоў да партрэта польскай сталіцы, вядома, не дазваляюць уявіць усю яе прыгажосць. Хай кожны сам паспрабуе адчуць тут непаўторны водар. Таму і раю: адпраўляйцеся ў Варшаву. Пагасціць да сяброў, папрацаваць да калег. Хоць на навуковую стажыроўку, хоць у кароткі турыстычны рэйс ці проста на уік-энд. Раптам ахоўныя крылы Белага Арла дакрануцца і да вашых плячэй...

**Наталля АГАФОНАВА.**

ЧАЧНЯ

# ХРОНІКА АДНАГО БОЯ НЕЗРАЗУМЕЛАЙ КАЎКАЗСКАЙ ВАЙНЫ

**І канца пакуль не бачна гэтай вайне. Вайне, якая нягледзячы на быццам бы штодзённае адлюстраванне на расійскіх тэлеканалах і друку, тым не менш, застаецца малавядомай і малазразумелай жыхарам былых рэспублік СССР. Навошта ў Чачні льецца кроў, за што там гінуць людзі і калі спыніцца гэты жах? Пытанняў больш чым адказаў. Сёння мы прапануем матэрыял маскоўскага калегі — своеасаблівую ілюстрацыю да гэтай непатрэбнай вайны, яе бязглуздзіцы і непрафесіянальнага вядзення.**

У той бой генерал нас, журналістаў, не пусціў: «Можа быць вельмі небяспечна. Спачатку вывучыце абстаноўку. Заўтра раю быць са мной на КП».

Туды выехалі з вечара, каб на досвітку ўбачыць на свае вочы падзеі на схілах Гудэрмескага хрыбта.

Падняліся а палове чацвёртай. Але першыя радкі ў блакноце паявіліся ў шэсць.

*«Авіяцыя, якая павінна была працаваць з 4.00, чакаецца ў 6.15—6.30. Наш КП — на выступе граніцы паміж Дагестанам і Чачнёй. Граніца — па р. Аксай. Прама перад намі сяло Ішкой-Юрт. Бандыты «працуюць» уначы, удзень адсыпаюцца ў сяле. Іх сілы: 4 танкі, 3 БМП, артылерыя (наводчык — нібыта маёр расійскай арміі, або палонны, або наёмнік). Тут загінула разведка брыгады аператыўнага назначэння, тут жа трапіла ў засаду разведка аднаго з палкоў. З Гудэрмескага хрыба была атакавана ўчора і калона таго ж палка...*

*9.50. Чакаем авіяцыю.*

*10.20. Адпрацавалі ракетамі па «зялёнцы» — «выдатна», па зялёнаму «языку». Генералы задаволены. Чакаюць яшчэ пару «грачоў». Потым пачне артылерыя. З лесу выйшаў адзін мужык.*

*10.50. Па хрыбту адпрацавана яшчэ адна пара. «Артылерыя, к бою!»*

*11.00. Артпадрыхтоўка: залп «Града», потым САУ. Адна пазапланавая цэль — назіральны пункт баевікоў на хрыбце. Камандзір дывізіёна дае каманду сваім: «Наперад!»*

...Там, на схілах хрыбта ўжо ішоў бой, які запратакаліраваць ніяк немагчыма, як ні ўглядвайся ў яго праз стэрэатрубу, як ні ўслухоўвайся ў радыёперагаворы. У блакноце і на плёнцы дыктафона можна толькі пакінуць асобныя адзнакі, якія не перададуць і малой долі той крывавай падзеі, таго нечалачавечага напружання, з якім байцы ішлі на вышыню.

*13.26. — Браніраваную групу — к лесу! 85-ы — да 86-га!*

*Падбіта БМП. Атрад могуць акружыць. Знайшлі апорны пункт бандытаў.*

*13.55. Спрабуем артылерыяй адсекчы бандытаў. Баяцца ўдарыць па сваіх.*

*14.13. Ля буравой вышкі на грэбені хрыбта заўважаны танк, яго закопваюць — рыхтуюць да стральбы.*

*— Трэба б ударыць «Градам», — гаворыць камдыў, — а то па нас звезданудь.*

*14.34. Ля вышкі скапленне бранятэхнікі — накрываем артылерыяй. 86-ы сустрэў групу баевікоў...*

*16.00. Камдыў прымае даклад: «Чатыры забітыя, восем раненых. Аднаго недалічыліся, нібыта яго, раненага авіянаводчыка, грузілі ў БТР».*

У змрочным настроі вярталіся мы з КП.

Ісці ў атрад адразу пасля бою мы не хацелі — хлопцы павінны астыць. Праз дзень селі за дашчаны стол, пусцілі па кругу пачак цыгарэт. Начальнік штаба, які выконваў у тыя дні абавязкі камандзіра, прадставіў васьмярых байцоў-кантрактнікаў, з якімі пайшла размова спачатку пра пазаўчарашні бой, а потым — «за жыццё».

Хлопцы, якія ўмеюць ваяваць, не вельмі складана расказваюць пра сябе і нядаўні бой. Мы літаральна выціскаем з іх інфармацыю. А з іх, як аўтаматныя чэргі і выстралы гранатамётаў, — эмоцыі, свежыя яшчэ адчуванні, якія на паперы проста немагчыма апісаць. Гэта як хлапчукі, якія пераказваюць фільм «пра вайнушку»: «Нашы ў іх — ба-бах! А тыя па нашых — ду-дух, ду-дух!» Слухаеш, стараючыся не перабіваць, таму што хлопцы нанава пракручваюць у памяці карціну бою.

— Паднялі нас у тры гадзіны ночы. Сабраліся па-хуткаму. Потым чую па станцыі: «Стой, стой!» За КПП выйшлі і спынілся. Што такое? Карацей, авіяцыя гэта... яшчэ не працавала! І артылерыя не працавала. Авіяцыя нават не вылецела, калі яна павінна была працаваць ой-ёй-ёй колькі!

Вось мы там прастаялі так дзесьці да дзесяці, ды гэта мы стаялі, лічыце, дзесьці каля шасці гадзін. Проста так стаялі, каля КПП. Потым сказалі: «Наперад!»

Дзве «бээмпэшкі ў нас былі, адзін танк, сем бэтээраў, 88 чалавек. Задача — прыйсці проста, кругавую абарону заняць, потым дачакацца палка, — расказваў адзін малады салдат.

Хлопцы нанава перажывалі бой, успаміналі дэталі, небяспечныя моманты, і я не перабіваў іх. Потым селі над картай з начальнікам штаба:

— Па задуме, полк павінен быў трыма батальёнамі заняць тры вышыні. Для гэтага трэба было прыкрыць правы фланг, таму што вось тут ідзе Гудэрмескі хрыбет, дзе сканцэнтравана значная групоўка праціўніка...

Задумка ж была ў нас усё зрабіць на досвітку — элемент раптоўнасці для праціўніка. Адзін батальён павінен быў «сесці» туды ў пяць раніцы, а мы павінны былі «сесці» ў 5.40 сюды. А мы пачалі рух толькі ў адзіннаццаць. Таму што, бачыце, авіятары самастойна перанеслі сваім рашэннем авіяцыйны ўдар з чатырох на шэсць, потым з шасці — на восем, з васьмі — на адзінаццаць і гэтак далей. Эфектыўнасць ад гэтага ўдару — нуль! Я яго асабіста назіраў — ніводнай варонкі, хоць яны там павінны былі ўсё зраўнаваць з зямлёй. Дывановае бомбакіданне называецца, няхай яму будзе ліха!..

Падпалкоўнік расказваў мне сваё бачанне боя, водзячы алоўкам па карце:

— ...А танкам страляць не стаў, таму што не ведаў, дзе яшчэ нашы. Нам было б значна горш, калі б мы не сканцэнтраваліся ў левай «зялёнцы» і пачалі адыходзіць па ёй. І танк пачаў лупіць па правай «зялёнцы», сюды вось. Даволі шчыльна пачаў, а іх тут многа было...

— Страху не было?

— Не.

Яны максімалісты, гэтыя юныя ветэраны чачэнскай вайны. Цяпер вось амаль жартуюць, хоць пазаўчора, у тым самым баі страцілі чатырох сваіх сяброў. Грань паміж мірам і вайной, паміж жыццём і смерцю выбралі самі, добраахвотна.

Тэхніка ваенная — сур'ёзная? «Едзеш і молішся на яго, каб на горку ўз'ехаў і не закіпеў, каб нічога не заклініла.

«У мяне БТР — гэта рэч! На аперацыі сярод дарогі стаў і стаіць, не можа ехаць далей. У яго нават заглядваць баяліся — усё на дратах. Колы наогул былі — аб іх запалкі запальвалі».

Яны цярплівыя, вынослівыя і непатрабавальныя. Гавораць: «Калі ўсё гэтак будзе, тады без праблем!» А пакуль служаць і ваююць.

**Барыс КАРПАЎ.**

# ЧОРНА-БЕЛАЯ ВЫРАЗНАЯ ШЭРАСЦЬ

ЛЮДСКІ натоўп зімой адрозніваецца трывалым пастаянствам: прыхільнікамі цёмных, нават змрочных фарбаў становіцца большая частка насельніцтва. Магчыма, так адбываецца, каб не дысаніраваць з прыродай: летам пануюць усе фарбы, таму і мы носім яркія, стракатыя адзенні, асноўныя колеры зімы — чорны, белы, шэры, яны пераважаюць і ў гардэробе.

Утульны цёплы світэр — рэч неверагодна дэмакратычная, а таму незаменная. Асабліва зімой. Толькі ў гэтым сезоне традыцыйны світэр на другім плане. Самая папулярная форма — без звыклых манжэтаў на рукавах і рызінкі па нізу.

Свабодны ніз рэчы можа быць прамым і крыху расшыраным. Разрэзы па бакавых швах ужо не робяцца, так што ў світэрах мінулага сезона зашыйце іх. У каўнярах мы ўжо «не патанаем» — пераважаюць невысокія «стойкі» ці наогул пакідаецца круглы выраз. А каб захінуць шыю, павязваецца цёплы шалік ці пад світэр надзяваецца тонкая вадалазка. Самыя папулярныя колеры ў зімовым касцюме, які, дарэчы, часцей за ўсё складаецца са світэра і пераважна вузкіх штаноў, — чорны і белы. Яны спалучаюцца ў арнаменце, які быў ужо некалі ў модзе: вялікія кветкі, геаметрычныя фігуры. Арнамент можа размяшчацца не толькі спераду, але і на рукавах, ці па ўсяму світэру. Акрамя звычайнай шэрсці выкарыстоўваюцца букліраваныя і ніткі з доўгім ворсам. Прычым у адным вырабе могуць спалучацца і букле, і звычайная шэрсць. Гэтак жа як меланжавыя ніткі і чорна-белы арнамент. Да вязаных жакетаў і куртак прапануюцца галаўныя павязкі з той жа пражы, берэты розных формаў. І яшчэ адна абавязковая і цікавая дэталь. У чаравікі на тоўстай падэшве абавязкова надзяваюцца шкарпэткі і гетры грубай вязкі. Яны выглядваюць нават з высокіх ботаў. У полі зроку модніц у гэтым сезоне рэчы з нітак з люрэксам. Асаблівай увагай карыстаюцца камізэлькі, невялікія жакеты і аблягаючыя світэры ў чорна-бліскучым выкананні: да чорнай ніткі-асновы дадаецца нітка жоўтага ці белага люрэксу. Вельмі нават нядрэнна.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**








ФОТА З ЧАСОПІСА «VERENA»



# У ВІЦЕБСКУ ВЫБІРАЮЦЬ ПРЫГАЖУНЮ

У першым адборачным туры конкурсу «Віцебская прыгажуня» ўдзельнічалі звыш ста дзяўчат ва ўзросце ад 16 да 23 гадоў.

У другі тур, які адбудзецца дзесьці праз месяц, прайшло сорак удзельніц. Зараз падрыхтоўкай дзяўчат займаюцца харэографы, стылісты, візажысты, іншыя спецыялісты. Канкурэнцыя ў другім туры будзе жорсткая: выйсці з гульні прыйдзецца кожнай трэцяй удзельніцы. Затое пасля фінал адбудзецца хутка: імёны трох самых прыгожых віцяблянак стануць вядомы дзесьці напярэдадні свята 8 Сакавіка. Першая прыгажуня атрымае права ўдзелу ў II Міжнародным конкурсе прыгажосці «Міс Славянка-96».

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ПАДКАЗКА*

# ДОГЛЯД СКУРЫ ЗІМОЙ

**ЛЮБОЙ СКУРЫ мароз і холад дужа шкодзяць. Зімовы вецер не менш высушвае скуру, чым спякотнае летняе сонца. А таму раніцай умывайцеся за гадзіну да выхаду на вуліцу. А калі надыходзяць траскучыя маразы, то лепш увогуле аддаваць перавагу касметычнаму малачку: замест мыцця працірайце ім твар, а пасля, старанна высушыўшы яго ручніком, добра змажце пажыўным крэмам, не забываючыся тоўсты слой яго нанесці пад вачыма.**

Многія жанчыны лічаць, што карыстацца крэмам нават дрэнна: навошта дадаваць арганізму нешта іншароднае? І вельмі памыляюцца. Мы ж змазваем боты, каб яны даўжэй служылі і мелі добры выгляд. Тое ж самае і тут. Ніякі крэм, калі толькі ён не падпольнай вытворчасці, не можа прынесці шкоду. Ён складаецца з карысных рэчываў, неабходных для арганізма. Да таго ж крэм выконвае ахоўную функцыю. Толькі не выкарыстоўвайце з гэтай мэтай увільгатняльны крэм. Перад выхадам на вуліцу, дзе мінусавая тэмпература, можна крыху прыпудрыць твар. Не забывайцеся змазваць крэмам і вусны, інакш яны хутка патрэскаюцца ад марозу. Калі гэта ўсё ж такі здарылася, нанясіце на іх перад сном некалькі кропель кастаравага масла.

Тое ж тычыцца і рук. Не трэба мыць іх перад самым выхадам на вуліцу. Абавязкова нанясіце крэм. Ад марозу рукі часта чырванеюць. Каб пазбавіцца гэтага, рэкамендуецца зрабіць для рук кантрастныя ваннaчкі: то халодныя, то гарачыя.

Зімой, калі так не хапае сонца і вітамінаў, паспрабуйце зрабіць наступныя маскі.

**Тваражная.** 2 сталовыя лыжкі свежага творагу разатрыце з сырым жаўтком і некалькімі кроплямі перакісу вадароду. Маса павінна быць без камкоў і не вельмі густая. Накладзіце яе на твар і шыю на 10—15 хвілін, потым змыйце халоднай вадой. Такая маска пазбаўляе скуру шараватага адцення, якое звычайна з'яўляецца зімой.

**Дражджавая.** 30 г свежых дражджэй здрабніце. Падагрэйце ў лыжцы некалькі кропель мёду і перамяшайце з дражджамі. Калі скура сухая, дадайце яшчэ некалькі кропель аліўкавага алею. Патрымайце маску на твары і шыі 15—20 хвілін, змыйце цёплай вадой і спаласніце твар халоднай.

**Снегавая.** Такая назва — жартоўная. На самай справе прапануем зрабіць кампрэс са снегу, бо холад захоўвае не толькі прадукты, але і кансервуе жаночую прыгажосць. Уся працэдура займае нейкіх 8 хвілін, а эфект дае неверагодны — скура разгладжваецца, з'яўляецца прыемны румянец.

Робіцца гэта так: набіраеце прыгаршчы чыстага снегу, высыпаеце ў сурвэтку, канцы якой закручваеце, і прыкладаеце кампрэс да твару і шыі. Працэдуру можна выконваць раніцай, як толькі прачняцеся, калі яшчэ не змыты начны крэм, ці перад сном. Не лянуйцеся, калі яшчэ будзе столькі снегу?

## ШОУ «СУПЕРМАДЭЛЬ БЕЛАРУСІ-96» АБЯЦАЕ БЫЦЬ ШОУ ГОДА

Нацыянальны конкурс «Супермадэль Беларусі» — адзінае мерапрыемства, дзе прафесіянальныя манекеншчыцы могуць паказаць сваё майстэрства і атрымаць адзнаку.

Толькі сёлетні конкурс, фінал якога адбудзецца хутчэй за ўсё напярэдадні жаночага свята 8 Сакавіка, значна адрозніваецца ад папярэдніх мерапрыемстваў. Па-першае, колькасцю намінацый. Калі раней выбіраліся толькі прафесіянальныя подыумныя мадэлі (супер і віцэ) і «Міс», «Віцэ-міс Зачараванне», то сёлета дзве апошнія намінацыі адменены, а замест іх будуць вызначаны прафесіяналы сярод маленькіх мадэляў, мужчын (упершыню), суперфотамадэлі і заахвочвальныя мадэлі, а таксама бізнес-мадэлі. Па-другое, у арганізацыйны камітэт конкурсу акрамя агенцтва Сашы Варламава ўвайшлі артклуб «Ліка», тэхніка-камерцыйны цэнтр часопіса «Еўрастыль», фірма «Алатан-авіятур». Выступленне ў якасці галоўнага спонсара акцыянернага таварыства «Белнафтагаз» дадае да традыцыйных прызоў (бытавой тэхнікі, парфумерна-касметычных набораў, кантрактаў на работу ў РБ, пуцёвак на турыстычныя паездкі ў ЗША, Канаду, Іспанію) аўтамабіль. Прызавы фонд конкурсу склаў каля 175 мільёнаў рублёў. І хаця сёння ўжо вызначаны фіналісты — 14 дзяўчат і 6 хлопцаў, тым, хто яшчэ сумняваецца, ці варта канкурыраваць сваёй прыгажосцю, раім 19 студзеня, паклаўшы ў сумку купальнік і туфлі на высокім абцасе, накіравацца ў салон «Прынцэс модэн» па вуліцы Маякоўскага. Там адбудзецца апошні адборачны тур.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*СУПЕРМАДЭЛІ СВЕТУ*

# АСАБЛІВЫ ТВАР — КРЫСЦІНА БОЙТМАН

Яны ўсе з адной марай, 65 дзяўчат, якія стаяць у рад перад доўгім сталом у зале лейпцыгскага Nobel атэля. Яны ведаюць: рэгіянальны кастынг, (адбор), верагодна, пройдуць каля дзесяці з іх, затым у Берліне (Ох, дайсці б хаця б туды!) ад 80 да 90 працэнтаў прэтэндэнтак будуць адпраўлены дамоў. Васьмю тыднямі пазней выберуць адзіны асаблівы «твар» і 84 тысячы мараў застануцца толькі марамі.

Крысціне семнаццаць, і яна цудоўная, толькі крыху інертная. Яна не адчувае ніякага жадання выслаць фатаграфію ў адно з агенцтваў для ўдзелу ў кастынгу. І ўсё-такі, калі ў адзін са жніВеньскіх дзён гарачага лета вырашыла паспрабаваць. У гасцініцы робяць яе хуткі здымак. Гэтак жа хутка праходзіць агляд перад членамі журы. Самы першы раз Крысціна была ацэнена з галавы да ног. Усё адбываецца пры гэтым крыху як бы недарэчна, але ў той жа час «мурашкі бягуць па целе». І вось ужо Крысціна ў першай дзесятцы. Чаму, гэтага яна не ведае: «Якія крытэрыі мае журы, для мяне з'яўляецца загадкай».

У канцы верасня яе запрасілі ў Берлін. Былі зроблены першыя тэставыя здымкі. 20 кастрычніка зноў у Берліне. Да гэтага часу ўсё было пробамі і крыху ўдачай для Крысціны. Але цяпер размова ідзе аб паездцы на Коста-Рыку, аб якой яна думае сур'ёзна. Але спачатку трэба прайсці конкурс. У апошні тыдзень перад конкурсам Крысціна рабіла тое, што робіць звычайна: яна пайшла ў школу, дзе ў час уік-энда праходзяць танцы. Яна не змяняла сваю касметыку і ела тое, што ёй хацелася.

Журы няпроста зрабіць свой выбар. У першы круг праходзяць 40 кандыдатак і кандыдатаў. Затым застаюцца 20 фіналістаў. Сярод іх Крысціна Бойтман.

Дзяўчына павінна расказаць аб сабе перад тэлекамерай. Усё праходзіць цудоўна. Толькі ўначы пераможцы адправіліся на аўтамабілі ў Гамбург.

Зусім мала сну і зноў фотакамеры. Запісваецца шоу «Твар». Назад у Берлін, павінны быць зроблены здымкі для праграмы. Гэта цягнецца паўдня. Рабочыя будні мадэляў: студыі, паездкі, стрэс: «Я амаль поўнасцю страчваю раўнавагу». Але Крысціна супакойвае сябе, гаворачы, што гэта ўсё неабходна. Адлёт на Коста-Рыку. У самалёце весела. Бацькі Крысціны ўжо ўскладаюць надзеі на гэту паездку, бо ажыўленая група не ляціць ляжаць на пляжы пад сонцам. Асновы прафесіі мадэлі яны павінны будуць вывучыць тут, заўсёды ў акружэнні фатографаў, прадстаўнікоў агенцтваў і прэсы. Кожны дзень здымкі для каталога: ужо выпрацавалася прывычка да прысутнасці камеры, ужо прабуюцца позы і рухі перад фатографамі. Няўпэўненасці застаецца зусім мала.

У першы раз паказ моды: «Мне абсалютна ўсё спадабалася». На наступны дзень ужо прыходзіцца думаць аб вяртанні ў нямецкі лістапад.

Перад фіналам: чуткі, балбатня прэсы, пажаданні поспеху. Усё-такі жыццё Крысціны ў Дрэздэне праходзіць нармальна. У школе ўсе за яе перажываюць і жадаюць поспеху. Зайздрасць, насмешка? Не. У Крысціны ўзрастае цікавасць да рашаючага дня. І крыху да будучага. Яна рада агляду моды Ц'еры Мюглера, і перш за ўсё сустрэчы з астатнімі фіналістамі.

Пробы. Усе ўдзельнікі нервуюцца. Многія вырашылі: гэта павінна быць Крысціна. Яна перамагае. Зноў яна не разумее, як гэта магло адбыцца. Зноў усё адбываецца вельмі хутка. Вельмі хутка, каб здзівіцца. «Я хацела ўсё-такі гэта хоць раз зведаць», — гаворыць яна ў вялікую колькасць мікрафонаў. Дзіўна, але ў яе бацькоў бяруць інтэрв'ю. І самой Крысціне прыходзіцца раздаваць усюды свае аўтографы. Дайце аўтограф, Крысціна! Звар'яцець.

Крысціна перамагла, але зрабіла тое, што мела намер зрабіць: яна вярнулася ў Дрэздэн, каб здаць экзамен на атэстат сталасці. Крысціна зусім не падобная на мадэль, калі яна сядзіць за кухонным сталом і расказвае апошнія школьныя навіны. Але ёй не трэба перабудоўваць сябе, калі яна ў пятніцу вечарам знаходзіцца ў білетнай касе аэрапорта.

«Весела, — думае яна час ад часу. Цяпер я стала мадэллю!» Але ў асноўным яна застаецца самой сабой, Крысцінай.

**Па матэрыялах замежнага друку.**

# СМЕХАТЭРАПІЯ

**Ліон ІЗМАЙЛАЎ, Валерый ЧУДАДЗЕЕЎ**

## СВОЙ ШЛЯХ

Што гэта мы ўсё на заграніцу азіраемся? У нас жа свой шлях да светлай будучыні ўсяго чалавецтва.

Ільіч так і сказаў (я маю на ўвазе, Ільіча першага, а не апошняга): мы пойдзем іншым шляхам. І мы 73 гады ішлі гэтым іншым па буралому і бездарожжы, а цяпер хочам на іх шлях стаць.

Дык гэта ж трэба спачатку назад у семнаццаты год вяртацца, дзе нашы шляхі разышліся. Так што на іх няма чаго глядзець. У нас па-іхняму жыць не атрымаецца.

Вось, напрыклад, усе крычаць: «Давай прафесіянальную армію! Як у Амерыцы!»

Давай! Ну, зрабілі такую армію. Значыць, усе яны прафесіяналы. Гэта значыць, усім салдатам трэба ў 40 разоў больш плаціць. І вы ўяўляеце, у колькі тады нашай краіне абыдзецца капанне канаў? А калі ўсе яны прафесіяналы, дапусцім, у артылерыі, у матэматыцы, у электроніцы? Ну ці ж змогуць яны тады пабудаваць прыстойны туалет на генеральскай дачы?

Ці вось канверсію вырашылі ажыццявіць. Г. зн. уся ваенная прамысловасць пераходзіць на мірную прадукцыю. Гэта значыць, што яны адразу ж выпусцяць басаножкі кірзавыя з халявамі да кален і хімсродак ад прусакоў з радыусам паражэння працўніка да 2 кіламетраў.

Цяпер на ўсіх скрыжаваннях «рэвалюцынеры» крычаць пра свабодны ўезд і выезд з краіны. Трызненне нейкае. Дазволь цяпер свабодны выезд — і ніякага ўезду ўжо дазваляць не давядзецца.

Дык мы спачатку наогул вызначыць павінны, што мы пабудаваць хочам.

Свабодны рынак? Гэта ў нашых умовах ды пры нашых звычках? Ну, добра, увядзём мы свабодны рынак. Г. зн. прадавай што хочаш, па якой хочаш цане, толькі б попыт быў. І тут жа на гэты рынак рабацягі сваю заводскую трубу прыцягнуць, нафтавікі — нафтавую вышку з кавалкам нафтапровада Урэнгой—Парыж, і ўвесь рынак запалоняць палкоўнікі, і ў кожнага з-пад крыса шыняля будзе тырчаць ядзерная боегалоўка.

Ці вось мы спадзяёмся на арэнду, сямейны падрад, фермерскую гаспадарку. Лухта ўсё гэта. Гэтак мы ўсю краіну загубім. Таму што адна палова сялян возьме зямлю ў арэнду і за год дасць столькі, што можна будзе пракарміць усю краіну, а другая палова гэтага відовішча не вытрымае і падпаліць усю краіну з чатырох бакоў.

Але самае галоўнае, што па-ранейшаму шырыцца колькасць палітычных партый. Зноў заходняе трызненне: меншавікі, эсэры, анархісты, сацыял-дэмакраты. І адкуль жа мы будзем ведаць, народ і якая партыя адзіныя?

Гэта ж значыць, на кожным заводзе будзе па 10 сакратароў парткомаў? І каму ж тады з іх першаму без чаргі кватэру даваць?

Мы ж прывыклі, што партыя — наш рулявы. Што ж цяпер, пяцёра рулявых на адзін руль? І наогул, як тады разабраць, якая партыя і Ленін — блізняты-браты?

Не, грамадзяне, у нас усё павінна быць адзінае: адна партыя, адна ідэалогія, адна мэта і адзін шлях. Вось тады мы і пабудуем не нейкі там іхні заходні сацыялізм з нахабным чалавечым тварам, а наш звыклы савецкі камунізм з голым...

## ВЕК ЖЫВІ — ВЕК ЛЯЧЫСЯ!

— Доктар, кожную ноч мне сняцца дзяўчаты, якія ўваходзяць у мой пакой і выходзяць з яго.

— Прапісаць вам што-небудзь, каб не сніліся?

— Не, толькі няхай дзвярамі не ляпаюць...

* * *

— Доктар, у мяне часта мёрзнуць ногі.

— У мяне таксама мёрзнуць, але калі кладуся з жонкай у ложак, яны саграваюцца.

— Прабачце, а калі можна застаць вашу жонку дома?

* * *

Урач праводзіць агляд хворага:

— Я бачу, што вас непакоіць сур'ёзны і даўні перапуд, які моцна атручвае ваша жыццё.

Хворы шэптам:

— Цішэй, доктар, — яна ж сядзіць у суседнім пакоі!

* * *

— Вось вам снатворныя таблеткі — хопіць на тыдзень.

— Але, доктар, я не хачу спаць так доўга!

* * *

Урач праводзіць агляд пацыента:

— Добра... Добра.. Добра...

— Што добра, доктар?

— Добра, што ў мяне гэтага няма...

* * *

У псіхіятра.

— Калі ў вас узнікла адчуванне, што вы сабака?

— Калі я яшчэ быў шчанюком.

**Шаноўныя чытачы «Звязды»! «Смехатэрапія» аб'яўляе конкурс анекдотаў. Пераможцаў чакаюць прызы.**

**P.S. Пераканаўча просім не дасылаць анекдотаў з доўгімі сівымі «барадамі».**



### УСМЕШКА МАСТАКА










Малюнкі Леаніда РАЗЛАДАВА.

## ДУМКАМ ЦЕСНА

• У якіх толькі пераплётах не гатоў пабываць іншы палітык, каб папасці на старонкі гісторыі.

* * *

• Калі ў цэнах два, тры, чатыры нулі, сам міжволі пачынаеш адчуваць сябе нулём.

* * *

• Мала ведаць справу як свае пяць пальцаў, трэба яшчэ да яе прылажыць рукі.

* * *

• Святоша: спачатку падвёў пад манастыр, а потым пачаў замольваць грахі.

* * *

• Скажы, што табе трэба, і я скажу, які сябар табе патрэбен.

* * *

• Каб не ўдарыць тварам у гразь, трэба трымаць у чысціні сумленне.

* * *

• Цэны становяцца ўсё больш і больш шалёнымі. Ці не пара ўжо арганізаваць іх адстрэл?

* * *

• Іншы працуе без агеньчыка, але заўсёды гатоў пагрэць рукі.

* * *

• Нават адходы грамадства не жадаюць аказацца на звалцы гісторыі.

* * *

• Той, хто спальвае масты сяброўства, горшы за падпальшчыка.

* * *

• Таго, каго не хочуць падпусціць на гарматны выстрал, чамусьці забіваюць з пісталета.

**Б. КАВАЛЕРЧЫК.**

## СМЕХ БЕЗ МЕЖАЎ

Сакратарка ў прыёмнай урача вельмі здзівілася, калі зназіральнага кабінета вылецела манашка і не заплаціўшы ўцякла. Калі за ёй выйшаў урач, сакратарка спытала, што здарылася.

— Я агледзеў яе і сказаў, што яна цяжарная, — заявіў урач.

— Але, доктар! Гэтага не можа быць!

— Вядома, не можа, — згадзіўся ўрач. — Затое ікаўку як рукой зняло.

**«Рыдэрз Дайджэст»**

Вы не чулі гісторыю пра злачынцу, які спрабаваў угнаць аўтобус з японскімі турыстамі? У паліцыі аказалася адразу 5000 яго фотаздымкаў.

**«Амерыкэн радыё тыэтр»**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**16 студзеня 1791 года** нарадзіўся Генрык Дэмбінскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1830-31 гадоў на Беларусі, у Літве і Польшчы. Летам 1831 года на чале корпуса дзейнічаў у Белавежскай пушчы супраць царскіх войскаў. У час яго паходу адбыўся новы пад'ём паўстання ў Навагрудскім павеце.

**У гэты дзень у 1920 годзе** па ініцыятыве Вялікабрытаніі Антанта зняла эканамічную блакаду Савецкай Расіі.

**Роўна праз год** быў падпісаны дагавор аб ваенным і гаспадарчым саюзе паміж РСФСР і БССР.

**16 студзеня 1935 года** закончыўся судовы працэс па справе так званага «Маскоўскага цэнтра». 19 чалавек, уключаючы Г. Зіноўева і Л. Каменева, былі асуджаны на розныя тэрміны — ад 5 да 10 гадоў. «М. ц.» абвінавачваўся ў сувязях з нейкім «замежным цэнтрам», а таксама ў саўдзеле ў забойстве С. Кірава.

**16 студзеня 1954 года** памёр Міхаіл Прышвін, вядомы савецкі пісьменнік, аўтар прозы, звязанай пераважна з тэмамі прыроды, народнага быту і фальклору.

### А яшчэ быў выпадак

Нейкі жыхар Тэхаса заплаціў фірме «Алкор Лайф», якая займаецца даследаваннямі ў галіне крыёнікі, 50 тысяч долараў за тое, каб пасля яго смерці яны замарозілі яго галаву, а ў аддаленай будучыні ажывілі, прышыўшы да якога-небудзь «падыходзячага» цела. Праз нейкі час тэхасец пакончыў з сабой... выстралам у галаву з рэвальвера. Але карпарацыя засталася вернай кантракту, і зараз прабітая галава тэхасца захоўваецца ў стальным кантэйнеры разам з 16 іншымі галовамі і 10 целамі, чакаючы абяцанага ажыўлення.

### Цікава

Палацы ўсходніх цароў і магараджаў здаўна даручалі ахоўваць кракадзілам. Галодныя страшыдлы пазменна неслі «дзяжурства» ў ірвах з вадой, не ўпускаючы ніводнай жывой істоты на сваім шляху.

А ў вёсках Інданезіі і па сённяшні дзень нянькамі «працуюць» сапраўдныя пітоны. Адлоўлены маленькі ўдаўчык выхоўваецца ў сям'і разам з дзіцем. Ён становіцца ручным, часткова замяняючы малому цацку і, самае галоўнае, аберагае яго ад ядавітых змей і насякомых.

На цэнтральным рынку горада Нікалаева грамадзяне шалёнымі тэмпамі раскупляюць хамячкоў па цане 70 тысяч карбованцаў за штуку. Прадаўцы божацца, што грызуны — радыкальны сродак супраць хатніх таракнаў. Лускаючы прусакоў, як семечкі, хамячок хутка ачышчае ўсю кватэру, і ўжо праз тыдзень яго можна здаваць у арэнду суседзям.

### З гісторыі прозвішча

**Ціхановіч** — прозвішча паходзіць ад старажытнагрэчаскага імя Ціхан — менавіта так звалі міфічнага *бога выпадку, лёсу і шчасця.*

**Цімафееў.** Бярэ сваё паходжанне ад грэчаскага імя Цімафей, што азначае *«які шануе Бога».*

### Што ў імені маім...

У нашай культуры існаваў каляндар імёнаў — святцы. Яны не закранаюць вялікага пласта дахрысціянскіх імёнаў, папулярных і зараз,— Людміла, Святлана, Стас, не кажучы ўжо і пра шырокаўжывальныя ўсходнія і заходнія імёны — Аліса, Карына, Эдуард, Роберт.

Сёння мы пазнаёмім вас з імёнамі, якія лепш за ўсё падыходзяць народжаным пад знака Цяльца. У асноўным гэта мяккія і разам з тым салідныя імёны, што адлюстроўваюць надзейнасць, стваральную сілу і зямную прыроду гэтага знака. **Мужчынскія:** Антон, Анатоль, Барыс, Васіль, Гурый, Емяльян, Ягор, Ілья, Любім, Мар'ян, Астап, Тарас; **жаночыя:** Анжэла, Антаніна, Бажэна, Вераніка, Дар'я, Дана, Карына, Мілада, Мая, Марына, Наталля, Паліна, Южана.

### Анекдот

*— Радавы Перападзенка! Чаму не спяваеце ў страі?*

*— Не магу, зубы разбаleліся.*

*— Дык хоць выйце!..*


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**

**Тыраж 113326. Індэкс 63850.**

**Зак. № 192.**

**Выходзіць 250 разоў на год.**

**Нумар падпісаны ў 20.15.**

**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**

**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**